№ 5 (699) 2 лютага 2011

www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Ірына Халіп: турма дома

Старонка 8



## Думбадзэ замаліў грахі Дарафеева перад Ярмошынай

Старонка 2

Тэндэнцыі

### «Гэта расстрэльныя спісы»

«Гэта расстрэльныя спісы. Гэта не што іншае, як звычайная расправа. Яна не мае нічога супольнага з персанальнай віною людзей», — так кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына адрэагавала на рашэнне Еўрасаюза забараніць 158 лукашэнкаўцам уезд у Еўрасаюз.

Старонка 3.

### У НУМАРЫ



«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі старонку 2.

# З вяселля — у турму

21-гадовы гродзенец Алесь Кіркевіч праз тыдзень пасля шлюбу апынуўся ў СІЗА КДБ. **Старонка 5.**



Экстрэмальнае каханне Алеся і Надзеі Кіркевічаў.

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА

## Ад панядзелка Лукашэнка для еўрапейцаў не існуе



Лукашэнку, ягоным сынам і 155 чыноўнікам забаронены ўезд у Еўрасаюз.

Што да эканамічных санкцый, то яны застаюцца апошнім аргументам на выпадак жорсткай расправы над палітвязнямі.

Рада міністраў замежных спраў краін Еўрасаюза на пасяджэнні ў Брусэлі 31 студзеня прыняла палітычнае рашэнне аб рэакцыі ЕС на сітуацыю ў Беларусі.

Міністры замежных спраў ЕС зацвердзілі спіс беларускіх чыноўнікаў, адказных за парушэнні правоў чалавека падчас прэзідэнцкай кампаніі. Гэтым асобам забаронена наведваць тэрыторыю ЕС, а іх рахункі і маёмасць у краінах Еўрасаюза будуць замарожаны.

У спіс трапілі 158 чыноўнікаў. У іх ліку — Аляксандр Лукашэнка і яго сыны Віктар і Дзмітрый, вечна юная кіраўніца ЦВК Лідзія Ярмошына, кіраўнік Рады бяспекі Леанід Мальцаў, кіраўнік КДБ Вадзім Зайцаў, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей, генпракурор Рыгор Васілевіч, 24 старшыні тэрытарыяльных выбарчых камісій, 30 суддзяў і 10 журналістаў дзяржаўных СМІ. Карацей, і жук і жаба і рак з кляшнёю.

**Працяг на старонцы 3.**

## Някляеў: «Там было няпроста»

Экс-кандыдат абжываецца пад хатнім арыштам.

Увечары 29 студзеня ў эфіры тэлеканала СТВ дыктарка нечакана агучыла навіну: Ірына Халіп і Уладзімір Някляеў, якія праходзяць падазраванымі па справе аб «беспарадках» 19 снежня, пераведзеныя пад хатні арышт.

Аказалася, тэлеканал апярэдзіў падзеі. Дома палітвязняў на той момант яшчэ не было.

Экс-кандыдата ў прэзідэнты кадэбісты завялі дамоў толькі ў 22.35. Яго прывезлі на вуліцу Велікаморскую сінім мікрааўтобусам «Фальксваген Транспортэр». Як нараніцу раскажа жонка Уладзіміра Вольга, мікрааўтобус доўга стаяў на суседняй вуліцы — чакаў, пакуль разыдуцца журналісты. Аднак зразумелі, што не дачакаюцца. Тады два супрацоўнікі спецслужбаў прайшлі ў кватэру Някляевых і «ачысцілі яе ад пабочных асобаў», а пасля тры іншыя вывелі палітыка.

Някляеў выглядаў не вельмі здаровым. Стваралася ўражанне, што ён не можа сам добра ісці. Аднак гаварыў бадзёра і шыроказ ўсміхаўся.

Някляеў адразу папярэдзіў, што не мае права даваць інтэрв'ю. Кадэбісты вялі яго не спыняючыся, вельмі хутка. Яны маўчалі і хавалі твары.

**Працяг на старонцы 8.**

# Думбадзэ замаліў грахі Дарафеева перад Ярмошынай

АНТ замяніла апальны «Выбар» бяззубым ток-шоу «Адкрыты фармат».



31 студзеня ў эфіры тэлеканала АНТ з'явілася новае ток-шоу «Адкрыты фармат». Яно стала заменай «Выбару» Сяргея Дарафеева, які трапіў у няміласць да кіраўніцтва краіны.

Дарафееў меў неасцярожнасць задаць пару смелых пытанняў старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай у перадачы, прысвечанай вынікам выбараў. АНТ паспрабавала зрабіць усё магчымае, каб апраўдацца за той «скандальны» эфір.

### Раздвойванне нацыянальнасці

Галоўнае — выбар персоны новага вядучага. Ім стаў уцякач з Грузіі Тэнгіз Думбадзэ. Падчас апошняга «Выбару» ён крытыкаваў вядучага за вострыя пытанні, а на наступны дзень на прэс-канферэнцыі паскардзіўся Лукашэнку на Дарафеева. І адразу атрымаў ягонае месца на тэлеэкране.

Думбадзэ — сын грузіна і беларускі. Ён нарадзіўся на тэрыторыі нашай краіны, але большую частку жыцця пражыў у Аджарыі, адкуль эміграваў разам з сям'ёй пасля прыходу да ўлады Саакашвілі. Вядучага адрознівае раздвойванне нацыянальнасці. Яшчэ некалькі гадоў таму ён расказваў у інтэрв'ю, наколькі крыўдна для яго як для грузіна аддзяленне Асеціі і Абхазіі ад Тбілісі. А вось у панядзелкавай перадачы ён некалькі разоў пачынаў пафасныя прамовы: «Я як беларус...» ці «Мы, беларусы...». Другі вядучы, Вячаслаў Бандарэнка, відавочна хваляваўся і актыўнага ўдзелу ў дыскусіі не браў.

### Міліцэйская праўда

АНТ ускосна падкрэслівала, што не зрабіла новую перадачу, а працягнула старую ў новых дэкарацыях. Здымкі адбываліся ў той самай зале, такім самым застаўся і выгляд — расстаўленыя паўколам крэслы з гасцямі, а ззаду трыбуны з сагнанай масоўкай. Паўтараліся нават госці. І Гайдукевіч, і Ярмошына зноў абаранялі стабільнасць краіны.

Ток-шоу АНТ вярнулася да ўзроўню «Выбару» часоў Ягора Хрусталёва — бяззубага, прэснага і манагалосага. Тады часцяком узнікалі тэмы для абмеркавання кшталту «Ці прыйдзе вясна?» Цяпер таксама ніводнага хоць трошкі альтэрнатыўнага меркавання не прагучала. Усе госці наперабой кляймілі натоўп дэманстрантаў і прakляты Еўрасаюз за яго санкцыі. Для параўнання, Дарафееў даваў права голасу шэф-рэдактарцы «Народнай волі» Святлане Калінкінай.

Абсурднасць абмеркавання і непадрыхтаванасць вядучых падкрэсліла смешная сітуацыя. Думбадзэ спытаў у першага намесніка галоўнага ўпраўлення аховы, правапарадку і прафілактыкі МУС Аляксандра Барсукова пра сітуацыі з арыштам невінаватых. Міліцыянер абурыўся: на плошчы не было старонніх людзей і ўсе былі затрыманыя справядліва. А літаральна праз некалькі хвілін раптам «панесла» іншага прадстаўніка праваахоўных органаў, які заявіў з трыбуны, што памятае выпадак з несправядліва затрыманым чалавекам. Маўляў, той здолеў абскардзіць сваё затрыманне. Відаць, міліцыянтам паведамілі розныя версіі для агучвання. Апафеозам стала Барсукова заява пра колькасць пацярпелых: каля ста супрацоўнікаў праваахоўных органаў і каля дзясятка дэманстрантаў. Ды і тыя маглі ўпасці самі, заявіў міліцэйскі начальнік.

### Цэнзура АНТ

Як і раней, АНТ-шныя рэдактары старанна вычышчалі нязручныя смс-паведамленні з бягучага радка перадачы. Хоць спачатку і праскочылі фразы накшталт абуранага «А кто ведущих одевал?» і іранічнага «Ермошина не уходит, і то хлеб:)». А вось паведамлення ад карэспандэнтаў «Нашай Нівы», якія заклікалі да свабоды палітвязняў, у эфіры так і не з'явілася. Затое прагучала абраза ў бок міліцыі: «Если бы я пошел на площадь, то на стороне МЕНТОВ». На момант выхаду газеты прэс-служба АНТ усё яшчэ не магла растлумачыць прычыну «знікнення» смс-паведамленняў і патрачаных на іх 600 рублёў.

Скончылася перадача надзвычай сімвалічна: Тэнгіз Думбадзэ паднёс Ярмошынай... букет кветак, відаць, замольваючы грахі свайго папярэдніка. АНТ абыграла сітуацыю як падарунак да дня народзінаў сваёй пакрыўджанай гераіні.

«Выбар» ішоў ужывую, «Адкрыты фармат» ідзе ў запісе.

**Віталь Несцераў**

**АНТ фальсіфікавала відэа «Нашай Нівы»?**
Падчас ток-шоу «Адкрыты фармат» на АНТ гледачам было паказана відэа як быццам бы раскіданай арматуры на пустой Плошчы Незалежнасці. Пры гэтым у левым верхнім куце экрана стаяў значок NN Video. Кадры з'явіліся падчас рэпартажу-ўстаўкі палітычнага аглядальніка АНТ Руслана Паддубскага.
Гэтыя кадры не маглі быць знятыя карэспандэнтамі «Нашай Нівы», бо рабіліся спецыяльна дапушчанымі на Плошчу Незалежнасці супрацоўнікамі дзяржаўных тэлеканалаў пасля разгону дэманстрацыі.
«Наша Ніва» правядзе расследаванне сітуацыі.

### Сцісла

• **Пракаповіч: Усе нашы праекты пад пагрозай зрыву.** Сітуацыя ў замежным гандлі ставіць пад пагрозу выкананне праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2011—2015 гады. Пра гэта заявіў кіраўнік Нацбанка Пятро Пракаповіч 1 лютага на пасяджэнні Саўміна.

• **Эштан: ЕС можа ўзмацніць санкцыі супраць Мінска.** Кіраўніца дыпламатыі Еўрасаюза Кэтрын Эштан адзначыла, што Рада ЕС вернецца да пытання аб санкцыях, калі ў Беларусі не вызваляць палітзняволеных.

• **Эпідэмічны ўзровень грыпу перавышаны ў 12 гарадах.** Эпідэмія адзначаная ў Брэсце, Баранавічах, Пінску, Віцебску, Оршы, Гомелі, Мазыры, Мінску, Барысаве, Маладзечне, Магілёве і Бабруйску. У структуры хворых пераважаюць дзеці (63,6%).

• **Памёр Барыс Данілюк.** Дзеяч беларускай дыяспары ў ЗША пайшоў з жыцця 28 студзеня. Ён нарадзіўся ў 1923 г. у вёсцы Старыя Дзявяткавічы на Слонімшчыне ў сям'і святара, удзельніка Слуцкага паўстання Хведара Данілюка. Браў актыўны ўдзел у арганізацыі беларускага жыцця ў Амерыцы. Уваходзіў у Раду Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, кіраваў хорам у царкве Св.Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку, выдаваў часопіс «Царкоўны пасланец».

• **Пайшоў на крадзеж, каб «адкасіць» ад войска.** У міліцыю звярнуўся 24-гадовы мінчук і паведаміў, што скраў у бары ў Лошыцы мабільны тэлефон «Нокія» за 1500 даляраў. Мабільнік пакінуў на барнай стойцы падпіты турыст з паўднёвай краіны. Навошта краў? Судзімасць можа дапамагчы «адкасіць» ад войска, патлумачыў маладзён.

• **За ноч «разулі» дзве машыны.** У Мінску, у ваколіцах камвольнага камбіната, два аўто засталіся без колаў — «Хонда Цывік» і «Аўдзі». Страты ацэненыя ў 1,5 і 5 мільёнаў рублёў. Распачатыя крымінальныя справы. Адзін з дзейсных спосабаў прафілактыкі такіх злачынстваў — абсталяваць мацаванне колаў адмысловымі балтамі з арыгінальным ключом для іх. Такая паслуга каштуе каля 150 тысяч рублёў — танней за новы камплект колаў.

**АГ, СМ**

### Самае чытанае на nn.by за 26 студзеня — 1 лютага

- Някляеў: «Там было няпроста. Дзякуй усім!»
- Ад панядзелка Лукашэнка для еўрапейцаў не існуе
- Дакумент, які Мілінкевіч адмовіўся падпісваць, — фотакопія
- Звольненыя і адлічаныя за Плошчу. Дадай інфармацыю
- Пагроза санкцый дзейнічае: Някляеў, Халіп пераведзеныя пад хатні арышт
- «Ад чаю не адмовіліся», — кажа Вольга Някляева пра супрацоўнікаў КДБ, якія вартуюць яе мужа
- Наталля Радзіна: Прызнавацца і каяцца мне не было ў чым
- Істэрычная рэакцыя Ярмошынай: «Гэта расстрэльныя спісы»
- АНТ прайшлося па Дзмітрыеву
- «Я буду вечный президент, всем беларусам Батька»

### ДЗЕ ВАРТА БЫЦЬ

#### ARCHE ў Гродне

**4 лютага (пятніца) у Гродне** адбудзецца прэзентацыя выдавецкіх навінак часопіса ARCHE. Будзе прадстаўлена пад дзясятак выданняў, у тым ліку кнігі Марка Бартушкі «Партызанская вайна ў Беларусі (1941—1944)», Мечысловаса Ючаса «Грунвальдская бітва», другое, перапрацаванае выданне «Жаўнераў БНР» Алега Латышонка, «Крыўя-Беларусь у мінуласці» Яна Станкевіча, «Да гісторыі беларускага руху» Антона Луцкевіча, «Кампанія 1660 года ў Літве» Кшыштафа Касажэцкага.

Апрача гэтага, размова пойдзе пра тэматычныя нумары часопіса ARCHE — «Тэрор і прапаганда ў акупаванай Беларусі», «Грунвальд 1410—2010».

Чакаем вас **а 19-й па адрасе: вул.Будзённага, 48а (зала ва ўнутраным дворыку)**.

# Ад панядзелка Лукашэнка для еўрапейцаў не існуе

Працяг са старонкі 1.

У прынятым рашэнні зазначаецца, што спіс беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у ЕС, з'яўляецца адкрытым і можа быць перагледжаны.

Міністр замежных спраў Мартынаў і віцэ-прэм'ер Сямашка не ўключаны ў спіс тых, каму ўезд у Еўропу забаронены. Гэта азначае, што яны будуць асобамі, праз якіх можа весціся дыялог. Прычым наяўнасць сярод іх Сямашкі дазволіць размаўляць па пытаннях энергетычнага супрацоўніцтва і дыверсіфікацыі крыніц паставак энерганосьбітаў у Беларусь.

У той жа час Еўрасаюз не прыняў ніякіх адкрытых эканамічных санкцый. Нефармальныя абмежаванні на эканамічныя кантакты з рэжымам будуць, але адсутнасць фармальных санкцый не дазволіць лукашэнкаўцам зваліць на еўрапейцаў уласныя эканамічныя цяжкасці.

Варта адзначыць, што за апошнія два гады Еўрасаюз уводзіў санкцыі супраць Ірана, Зімбабвэ, Кот д'Івуара, Габона. Беларусь аказалася ў недастойнай кампаніі карумпаваных і фанатычных рэжымаў.

Тое, што санкцыі будуць уведзеныя непазбежна, было ясна. Было ясна і тое, што эканамічныя санкцыі не разглядаюцца як рэальны варыянт. Рэч у тым, што ў Еўропу Беларусь пастаўляе амаль выключна нафтапрадукты, і яны пастаўляліся б і далей у выпадку ўвядзення санкцый, толькі пад расійскімі дакументамі, што павялічвала б залежнасць Беларусі ад Масквы.

Прапанова Польшчы і Швецыі замарозіць супрацоўніцтва з Беларуссю не была падтрыманая.

Аднак і стрыманая версія санкцый выклікала істэрыку старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай: «Гэта расстрэльныя спісы. Калі на акупаванай тэрыторыі з насельніцтвам распраўляюцца, то спачатку вызначаюць — пацерпіць столькі і столькі чалавек. А пасля мы вызначымся персанальна. Яны могуць зрабіць усё што заўгодна. Гэта ні што іншае, як звычайная расправа. Яна не мае нічога супольнага з персанальнай віною людзей».

Не толькі Ярмошына, але і кіраўнік дзяржавы, і ўся прапагандысцкая машына з заўважнай нервознасцю рыхтаваліся да аплявухі з Брусэля.

Рэакцыі на санкцыі з боку Лукашэнкі ў першыя гадзіны пасля іх прыняцця не было. МЗС жа паабяцала прыняць «адэкватныя і прапарцыйныя меры». Напэўна, забароняць уезд у Беларусь брытанскай каралеве.

У кожным разе, бачна, што ўлада ўсё ж была занепакоена. Нават не самім фактам, што лукашэнкаўцаў будуць ігнараваць. Санкцыі — гэта толькі вяршыня айсберга. Нашмат больш непрыемнасцяў будзе ад нефармальнага ціску. Лукашэнкаўцам няма як спадзявацца на палітыку спрыяння. Іх не чакаюць выгадныя кантракты і танныя крэдыты. Ад 31 студзеня Лукашэнка для еўрапейцаў не існуе.

Як выказаўся ў Брусэлі міністр замежных спраў Люксембурга: «Спадар Лукашэнка цалкам сябе здыскрэдытаваў».

Ускосныя наступствы ўвядзення санкцый будуць нашмат больш істотнымі, чым самі санкцыі.

Што да эканамічных санкцый, то іх пакінулі ў запасе ў якасці апошняга аргумента. Іх увядзення можна будзе чакаць у выпадку жорсткай расправы над палітвязнямі, якія застаюцца ў мінскіх турмах. Міністры даручылі Еўракамісіі (г.зн. ураду Еўрасаюза) «назіраць за сітуацыяй у Беларусі». Кіраўнікі еўрапейскіх МЗС зазначылі, што могуць вярнуцца да пытання эканамічных санкцый супраць Беларусі ў выпадку рэзкага ўзмацнення рэпрэсій у краіне.

**Мікола Бугай**



**ЗША ўводзяць эканамічныя санкцыі**

У адзін дзень з Еўрасаюзам рашэнне пра санкцыі прымалася і ў Вашынгтоне. Афіцыйны прадстаўнік Дзярждэпартамента Філіп Кроўлі абвесціў, што Злучаныя Штаты вяртаюць санкцыі ў дачыненні да беларускіх прадпрыемстваў «Полацк Шкловалакно» і «Лідская лакафарба». А таксама пашыраюць спіс неўязных чыноўнікаў.

«ЗША таксама працуюць над фінансавымі санкцыямі ў дачыненні да шэрагу асоб і прадпрыемстваў у Беларусі. Крытэрыем пападання ў гэты спіс стане дачыненне да дзеянняў па падаўленні дэмакратычных інстытутаў ці парушэння правоў чалавека пры дапамозе палітычных рэпрэсій», — сказаў Кроўлі.

**ЗП**

## Міністр Куляшоў: «Загад на разгон Плошчы аддаў я»

Галоўны міліцыянер краіны Анатоль Куляшоў 26 студзеня ўпершыню ад моманту выбараў з'явіўся перад журналістамі.

Пытаццa ў яго было пра што.

Прадстаўнікі дзяржаўных медыяў змаглі задаць толькі два пытанні. А ўвесь астатні час прадстаўнікі незалежных СМІ разрывалі міністра пытаннямі пра падзеі на Плошчы 19 снежня.

Найперш пацікавіліся, чаму на Плошчы збілі так многа журналістаў.

«У цемры цяжка вызначыць, ці гэта журналіст ці не, мае ён акрэдытацыю ці не. 19-га на Кастрычніцкай і плошчы Незалежнасці нікога не прыцясняў, як журналістаў, так і ўдзельнікаў».

Гэтага не вытрымалі журналісты «Белгазеты». У іхняга фотакарэспандэнта пасля затрымання была забраная флэшка. «А пасведчанне з сабой мелі?» — «Так». — «Значыць, супрацоўнікі міліцыі засумняваліся ў яго сапраўднасці. Мы неадназова сутыкаемся, калі журналісты з падробнымі акрэдытацыямі ўдзельнічаюць у акцыях». — «Дык ніхто нават на яго не глядзеў...» — «Гэта вы думаеце, што не глядзелі».

Потым Куляшоў прывёў прыклад, як няшчасных супрацоўнікаў міліцыі 19 снежня журналісты збівалі з дапамогай відэа- і фотакамер.

Хто збіваў Някляева? Куляшоў адразу заняў абаронную стойку і толькі адбіваўся. «Ну хіба маглі міліцыянеры ўдарыць кандыдата, каб гэтага ніхто не заўважыў? Усе хацелі, каб міліцыя ўдарыла. Але міліцыянеры не збівалі Някляева», — зазначыў міністр.




**Прадстаўнікі Беларускай асацыяцыі журналістаў падалі міністру заяву пратэсту супраць атак на журналістаў.**

Чаму супрацоўнікі праваахоўных органаў былі ўнутры Дома ўрада, а не з двара, каб не дапусціць «штурму» будынка?

«Усё рабілася для таго, каб вы не абвінавацілі нас у парушэнні правоў чалавека. На Кастрычніцкай не было ніводнага міліцыянера. А то падняўся б хай, што зноў прымяняюць сілу да мірных дэманстрантаў», — Куляшоў ужо ледзьве не зрываецца на крык.

Па яго словах, міліцыя некалькі разоў «прафілактычна дэманстравала сілу», але на «агрэсіўны натоўп» гэта не дзейнічала, і яны працягвалі штурмаваць будынак.

«Мы чулі ў перахопах, што былі заклікі ўзброівацца цаглінамі і каменнем. У выніку я затрымаў больш актыўных, якія ішлі на парушэнне закону. Каб не адбыўся ўзброены пераварот. Міліцыя дзейнічала далікатна і прафесійна», — эмацыйна выгукаў міністр.

А наўжо сапраўды людзі былі ўзброенымі? Бо ім жа інкрымінуюць арганізацыю масавых беспарадкаў, а не ўзброены супраць. «А хіба сякеры, манціроўкі, малаткі — гэта не зброя?» Але Куляшоў пацвердзіў, што агнястрэльнай зброі ні ў каго не было.

Марына Коктыш з «Народнай волі» папыталася: «Анатоль Нілавіч, а вам як мужыку не сорамна? Не хочаце папрасіць прабачэння ў збітых, пакалечаных?»

«Я ганаруся сваёй прафесіяй, — адказаў ён. — Ганаруся, што стаю на абароне законнасці. У мяне няма права не выконваць закон. 19 снежня я захаваў мір, спакой і стабільнасць. Мне не сорамна».

«Наша Ніва» папыталася, ці сам Куляшоў аддаваў загад на разгон Плошчы, ці яно прымалася на больш высокім узроўні. Міністр адказаў, што ён сам. Цікава, як яны з Лукашэнкам будуць дзяліць лаўры выратавальнікаў краіны?

**Зміцер Панкавец**

## Апазіцыя адкрывае свае пасольствы за мяжой

### Яе прадстаўніцтвы з'явяцца ў Вільні і Варшаве.

Пасля выбараў многія апазіцыянеры апынуліся за межамі краіны. Цяпер іхнімі намаганнямі адчыняюцца прадстаўніцтвы апазіцыі ў суседніх краінах.

Першымі ў гэтай справе сталі хрысціянскія дэмакраты. 28 студзеня ў Вільні пачаў працу міжнародны офіс БХД. Офіс будзе працягваць і развіваць міжнародную працу партыі, прадстаўляць інтарэсы БХД у Літве і на міжнародным узроўні.

Дапамогу хадэкам аказала партыя «Саюз Айчына — Літоўскія Хрысціянскія Дэмакраты». Офіс будзе адкрыты для супрацы з іншымі палітычнымі сіламі.

Таксама прадстаўніцтва ў Вільні хочуць адкрыць некаторыя сябры «Гавары праўду», што былі вымушаныя з'ехаць з краіны. «Людзі будуць прыязджаць у Вільню і працягваць сваю дзейнасць», — адзначаў Юрась Алейнік.

Бліжэйшым часам мусіць пачаць працу офіс «Хартыі-97» у Варшаве. Мэрыя польскай сталіцы выдзеліла для гэтага памяшканні.

У гэтыя самыя тэндэнцыі ўкладваецца жаданне часткі апазіцыі адчыніць прадстаўніцтва ў Брусэлі.

**ЗП**

# Калі аддаваць лукашэнкаўскія крэдыты?

Асноўныя выплаты грошай Расіі і МВФ пачнуцца ўжо ў 2013 годзе.

Мільярд за мільярдам крэдытаў набіраюць лукашэнкаўскія чыноўнікі. Толькі ў гэтым годзе іх возьмуць аж на $2,7 мільярда (глядзі суседні матэрыял). На 1 кастрычніка 2010 года замежны доўг краіны ўжо дасягнуў $25,6 мільярда. Але доўг страшны плацяжом. Калі давядзецца аддаваць грошы?

Спачатку перадгісторыя. Актыўнае назапашванне крэдытаў Лукашэнка пачаў у 2007 годзе. На той момант доўгатэрміновы доўг органаў дзяржаўнага кіравання складаў усяго 501 мільён даляраў. У наступныя гады сама дзяржава (без уліку крэдытаў, якія бралі банкі ці прадпрыемствы) набірала штогод па $1,5—1,6 мільярда, а ў 2009 годзе — усе $4,8 мільярда. На 1 кастрычніка доўг дзяржавы ўшчыльную падышоў да $10 мільярдаў і працягваў няўмольна расці.

**Выдаткі дзяржаўнага бюджэту Беларусі на абслугоўванне доўгу**

2011 — $760 мільёнаў

2010 — $680 мільёнаў

2009 — $340 мільёнаў

2008 — $340 мільёнаў

## МВФ адцягнем

Галоўнымі крэдыторамі Беларусі па-ранейшаму застаюцца Расія і Міжнародны валютны фонд, кожны з якіх ахвяраваў на ратаванне айчыннай эканомікі каля $3,5 мільярда.

Чаму «ахвяраваў»? Мала хто верыць, што Беларусь зможа расплаціцца па існуючых пазыках у агавораныя тэрміны. Міністр фінансаў краіны Андрэй Харкавец не хавае, што ў выпадку надзвычайнай сітуацыі гатовы прасіць у Міжнароднага валютнага фонду растэрміноўкі плацяжоў на 7 гадоў. У якасці кампраміснага варыянта яшчэ год таму ён прапаноўваў захоўваць беларускія грошы на спецыяльным рахунку ў Вашынгтоне, каб пераканаць МВФ у іх існаванні. Вось толькі ў сувязі з пагрозамі санкцый з боку ЗША ўлада наўрад ці пагодзіцца трымаць грошы ў кішэні ва ўяўнага ворага.

## Расію забалбочам

З Расіяй сітуацыя адначасова больш простая і больш складаная. З аднаго боку, усходні сусед наўрад ці будзе патрабаваць аддаць усё да апошняй капейкі. З другога — Расія працягвае паглядаць галодным поглядам на заманлівыя беларускія прадпрыемствы, долі ў якіх могуць быць аддадзеныя замест часткі старой пазыкі. Такая сітуацыя задаволіць абодва бакі.

**Крэдыты, набраныя Лукашэнкам**

| У каго пазычылі? | Калі пазычылі? | Колькі пазычылі? | З якімі ўмовамі пазычылі? | Калі пачнём аддаваць доўг? |
|---|---|---|---|---|
| Італія | 2007 | 300 мільёнаў еўра | | ? |
| Расія | Канец 2007 | $1,5 мільярда | 2,75% гадавых, на 15 гадоў з адтэрміноўкай на 5 гадоў | 2012 |
| Венесуэла | Канец 2008 | $500 мільёнаў | На 15 гадоў | пачалі ў 2011 (?) |
| Расія | Канец 2008 — пачатак 2009 | $1,5 мільярда | 5% гадавых, на 15 гадоў, з адтэрміноўкай на 5 гадоў | 2013 |
| Міжнародны валютны фонд | 2009—2010 | $3,5 мільярда | Каля 3,5% гадавых, на 4 гады | 2013 |
| Сусветны банк | Май 2009 | $125 мільёнаў | | ? |
| Расія | Студзень 2010 | $200 мільёнаў | | імаверна, выплачаны |
| Кітай | Першая палова 2010 | $1 мільярд | На мадэрнізацыю цэментных заводаў | 2015 |
| Азербайджан | Чэрвень 2010 | $200 мільёнаў | На 12 дзён | выплачаны |
| Еўрабонды (аблігацыі) №1 | Ліпень 2010 | $600 мільёнаў | 8,75% гадавых, на 5 гадоў | 2015 |
| Еўрабонды №2 | Жнівень 2010 | $400 мільёнаў | 8,25% гадавых, на 5 гадоў | 2015 |
| Кітай | Кастрычнік 2010 | $3,5 мільярда | 3% гадавых, на 15 гадоў, з адтэрміноўкай на 5 гадоў | 2015 |
| Еўрабонды №3 | Студзень 2011 | $800 мільёнаў | 8,95% гадавых, на 7 гадоў | 2018 |

+ дробныя крэдыты Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця, Германіі, Турцыі, ЗША на мэтавыя праекты

* некаторыя крэдыты афармляліся не як дзяржаўная пазыка, а як пазыка прадпрыемстваў

## Трэці свет

Кітайскія грошы выглядаюць унушальнымі па аб'ёме, але крэдытамі ў чыстым выглядзе не з'яўляюцца, бо не прадугледжваюць атрымання Беларуссю грошай. «Звязаныя» крэдыты выдаюцца пад пэўныя мадэрнізацыйныя праекты, прадугледжваюць удзел кітайскіх спецыялістаў і закуп тамтэйшай тэхнікі. Як вынік, Кітай будуе свае філіі на тэрыторыі Беларусі, а пасля наша краіна яшчэ і вяртае азіятам за гэта большасць грошай!

З венесуэльскімі грашыма яснасці яшчэ менш. Невядомыя ні стаўка крэдыту, ні астатнія ўмовы. Але, відаць, даляры, адхопленыя Лукашэнкам у Чавеса па знаёмстве, пачынаюць вяртацца ў Паўднёвую Амерыку. У бюджэце на 2011 год з'явілася інфармацыя пра абслугоўванне і пагашэнне венесуэльскага крэдыту. У папярэдніх бюджэтах такой згадкі не было.

## Выплаты пачнуцца праз год

Грошы, якія выдаткоўваюцца з бюджэту на абслугоўванне і пагашэнне дзяржаўнага доўгу, пакуль не перавышаюць нават адзнакі ў мільярд даляраў, хоць і пастаянна растуць. Ужо ў наступным годзе павінны пачацца выплаты расіянам, а ў 2013 – яшчэ і Міжнароднаму валютнаму фонду.

**Яўген Васількоў**

# Пракаповіч: пазычым «усяго» $2,7 мільярда за год




Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Пётр Пракаповіч выказаў сваё стаўленне да эканамічных санкцый і агульнай беларуска-расійска-казахстанскай валюты.

## Пракаповіч насуперак Лукашэнку

Мяркуецца, што сёлета Беларусь скароціць знешнія запазычанні. Праўда, калі кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка заяўляў пра гатоўнасць спыніць атрыманне крэдытаў, Пракаповіч загаварыў пра іншыя лічбы. Па яговых словах, сёлета краіна пазычыць 1 мільярд еўрабондаў, 8 мільярдаў расійскіх рублёў праз размяшчэнне аблігацый у Расіі і невялікую суму са сродкаў Еўразійскага фонду. Калі далучыць да іх ужо атрыманыя ў студзені 800 мільёнаў еўра, то агульная сума дасягне як мінімум $2,7 мільярда ў эквіваленце.

Выратаванне эканомікі Пракаповіч бачыць у Адзінай эканамічнай прасторы з Расіяй і Казахстанам, уступленне у якую, спадзяецца ён, нейкім чынам дазволіць скараціць дэфіцыт замежнага гандлю – у 2010 годзе ён дасягнуў астранамічнай сумы 18% ад ВУП.

## Супраць расійскага рубля, але і без беларускай валюты

Галоўны банкір краіны ўпершыню загаварыў пра стварэнне супольнай беларуска-расійска-казахстанскай валюты. «Казахстан ужо прапанаваў сваю схему, і мы прапануем сваю схему. Гэта будзе адзіная валюта ў межах АЭП, і ўсе краіны будуць мець роўныя магчымасці па яе выкарыстанні», — сказаў ён. У такім выпадку мусіць быць створаны наднацыянальны эмісійны цэнтр. А вось расійскаму рублю зноў адмоўлена ў прэтэнзіях на ўвядзенне ў нашай краіне.

## Дзікі Еўрасаюз

Загаварыўшы пра магчымыя эканамічныя санкцыі з боку Еўрасаюза, Пракаповіч назваў такую сітуацыю «дзікасцю». На ягоную думку, такія санкцыі будуць безвыніковымі. «Эканамічныя санкцыі ва ўмовах глабальнай эканомікі не могуць даць вынік», — лічыць кіраўнік Нацбанка.

Зрэшты, ён упэўнены, што да эканамічнай жорсткасці справа не дойдзе: «Я не бачу падставаў таго, што палітычныя заявы могуць дайсці да крытычных рашэнняў. Эканамічны характар не дазваляе іх прыняць», — сказаў Пракаповіч.

**ЯВ**

## Сцісла

• **Беларусь захоплівае літоўскі піўны рынак.** Паводле аб'ёму імпарту Беларусь стала другім пастаўшчыком піва ў Літву, заняўшы 20% рынку. Яшчэ два гады таму беларускія бровары амаль не прысутнічалі на гэтым рынку. Лідарамі былі чэшскія, нямецкія і польскія вытворцы.

• **Мяса і малако падаражэлі.** З 26 студзеня межавыя адпускныя цэны на ялавічыну павышаныя да 3% у месяц, на свініну, малако, кефір, смятану, тварог — да 2% у месяц. Папярэднія павышэнні цэн адбываліся ў верасні і кастрычніку.

• **Мясніковіч усё яшчэ чакае еўрапейскіх грошай.** Прэм'ер-міністр Беларусі заявіў, што разлічвае на супрацоўніцтва з Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця. Пры падтрымцы гэтага банка ўжо былі рэалізаваныя праекты ў энергетыцы, сувязі і лясной гаспадарцы.

• **Азербайджанская альтэрнатыва ўсё бліжэйшая.** 29 студзеня грэцкі танкер прывёз 81 тысячу тон азербайджанскай нафты для Беларусі ва Украіну. Паліва будзе дастаўлена на Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод праз нафтаправод «Адэса—Броды». Згодна з кантрактам, да канца года азербайджанцы паставяць у нашую краіну 4 мільёны тон нафты.

• **Будаўніцтва пятага цукровага завода адкладзена.** «Белдзяржхарчпрам» шукае замежнага інвестара, які б стварыў прадпрыемства з нуля, аплаціўшы 100% будаўнічых працаў. Магчымымі пляцоўкамі называліся Магілёўская і Гомельская вобласці. Сёння Беларусь мае вялікія вытворчасці цукру ў Слуцку, Гарадзеі, Жабінцы і Скідзелі.

• **Віцэ-прэм'ер Сямашка рэкламуе міні-ЦЭЦ і кацельні на мясцовым паліве.** У Беларусі ставіцца задача 30—31% энергіі (электрычнай, цеплавой) выпрацоўваць з аднаўляльных мясцовых сыравінных рэсурсаў. У якасці станоўчага прыкладу ён прывёў Пружанскую міні-ЦЭЦ (Брэсцкая вобласць).

• **Румас прапануе дзяржаве пазбавіцца неэфектыўных прадпрыемстваў.** Неэфектыўныя дзяржаўныя прадпрыемствы павінныя памяняць уласніка. Такое меркаванне выказаў новапрызначаны віцэ-прэм'ер Сяргей Румас. Ва ўрадзе ён адказвае за эканоміку.

**ЯВ**

# Беларусь на першым месцы ў Еўропе па ўзроўні інфляцыі

Паводле інфармацыі нацыянальных статыстычных службаў, Беларусь заняла першае месца ў Еўропе па ўзроўні інфляцыі ў 2010 годзе. Спажывецкія цэны ў нашай краіне ледзь-ледзь не дацягнулі да паказчыка ў 10%. Лідарамі ў сумнеўнай намінацыі сталі Беларусь (9,9%), Украіна (9,1%) і Расія (8,8%). Пры гэтым у сярэднім па краінах Еўрасаюза спажывецкія цэны выраслі на 2,6%.

Варта адзначыць, што многія незалежныя эканамісты ставяць пад сумнеў праўдзівасць беларускай інфляцыйнай статыстыкі. На іх думку, гэтыя лічбы спецыяльна заніжаюцца.

**ЯВ**

# З вяселля ў турму

## 21-гадовы гродзенец Алесь Кіркевіч праз тыдзень пасля шлюбу апынуўся ў СІЗА КДБ.

28 студзеня чатыры супрацоўнікі спецслужбаў у Гродне ўварваліся ў кватэру намесніка старшыні Маладога Фронту Алеся Кіркевіча.

Мама хлопца Ларыса Аляксандраўна расказвае, што забралі камп'ютар, агітацыйныя матэрыялы за Віталя Рымашэўскага, флэшку ад фотаапарата. «Шмат не было чаго забіраць», — кажа жанчына.

Потым Алеся павезлі на допыт у гродзенскае аддзяленне КДБ. Там юнака трымалі тры гадзіны. Адтуль яму дазволілі зрабіць званок маме. «Сказаў, што зараз яго павязуць у «амерыканку». Абвінавачваюць у актыўным удзеле ў несанкцыянаванай акцыі», — апавядае маці вязня.

У панядзелак яна прыязджала ў Мінск, але дабіцца інфармацыі пра сына так і не змагла. Перадачку для Алеся не прынялі — адправіла пасылку поштай. Ларыса Кіркевіч падпісала дамову з адвакатам. Цяпер спадзяецца, што атрымае хоць нейкую інфармацыю пра сына.

«Для нас гэта была абсалютная нечаканасць. Тым больш, што свой тэрмін Саша ўжо адседзеў», — з адчаем у голасе кажа спадарыня Ларыса. Алесь — адзінае яе дзіця.

### У падарунак шкарпэткі і швэдар

Кіркевіч не трапіўся ў рукі спецназа на Плошчы, але праз пару дзён і яго не абышло выпрабаванне суткамі. Хлопца затрымалі за ўдзел у акцыі салідарнасці пад сценамі Акрэсціна. Пасадзілі на 10 ночаў. На волю Кіркевіч выйшаў толькі 3 студзеня.

У гэты час у зняволенні знаходзілася і яго нявеста Надзея Крапівіна. «Ён мне потым казаў, што ладзіў акцыю для мяне», — смяецца Надзея.

Надзея выйшла на волю 31 снежня, напярэдадні Новага года. Тады і даведалася, што Алесь таксама на сутках. Там ён пісаў вершы (твор, напісаны ў турме на Акрэсціна, «НН» надрукавала ў №2), маляваў карыкатуры.

«Мы доўга абмяркоўвалі, дзе будзем адзначаць Новы год. Казала Алесю: «Калі сапсуеш мне свята, трапіўшы ў турму, усё астатняе жыццё будзеш мыць посуд. А апынуліся ў турмах абое», — расказвае Надзея.

«Перад тым як паехаць на Плошчу, Алесь сустрэў мяне ў Гродне — не з кветкамі, а з шарсцянымі шкарпэткамі. У турме гэтыя шкарпэткі мяне ўратавалі. Я ж на Новы год купіла яму цёплы швэдар. Перадала яго...» — дзеліцца досведам дзяўчына.

### У ЗАГС пасля суду і допыту

Каханне Алеся і Надзеі было крыху экстрэмальным. Заяву ў ЗАГС маладыя падалі 6 студзеня, і ў той самы дзень Алеся зноў судзілі. На гэты раз у Гродне за арганізацыю перадвыбарчай сустрэчы з кандыдатам у прэзідэнты Міколам Статкевічам. Тады ўсё абышлося штрафам.

Надзею ж у той дзень выклікалі на допыт у КДБ. Вось пасля гэтых судоў і допытаў хлопец і дзяўчына і падалі заяву аб жаданні зарэгістраваць шлюб.

Распісаліся яны 22 студзеня. «Мы не хацелі вялікага вяселля. Зрабілі ўсё мінімальна. Пасядзелі ў коле сям'і. Як тут будзеш шырока адзначаць, калі такое робіцца? Дарэчы, Алесь вельмі хацеў, каб сведкам на вяселлі быў лідар Маладога Фронту Зміцер Дашкевіч... Але дзе там», — расказвае дзяўчына.

Здаецца, менавіта ў Кіркевічу Дашкевіч бачыў свайго наступніка. За хуткі тэрмін хлопец стаў намеснікам старшыні.

### Ішлі да вяселля два гады

І Алесю, і Надзеі дваццаць адзін год. Яны пазнаёміліся два гады таму. Дзяўчына кажа, што насамрэч нічога рамантычнага ў той гісторыі не было.

«Пазнаёміліся на нейкай трэцясектарнай імпрэзе. У нас было шмат супольных сяброў і знаёмых». Пабрацца вырашылі два месяцы таму. «Можа некаму і падасца, што хутка, але мы ішлі да гэтага два гады», — кажа Крапівіна.

Кіркевіч — вернік. Надзея кажа, што менавіта таму так рана, як па цяперашніх часах, пажаніліся — для Алеся было важна ўзаконіць іх адносіны.



Алесь Кіркевіч таленавіта піша і малюе. Гэта ягоная карыкатура.

### З інтэлігенцкай сям'і

Гродзенскі гісторык Андрэй Вашкевіч расказвае, што Алесь Кіркевіч з інтэлігенцкай сям'і. Ягоны дзед, таксама Аляксандр, быў вядомым у Гродне краязнаўцам. Шмат гадоў апекаваўся музеем. «Яго ведала ўся гродзенская інтэлігенцыя», — кажа А.Вашкевіч.

Ад дзеда ў спадчыну Алесю і перайшла любоў да гісторыі. Хлопец паступіў на гістфак Гродзенскага ўніверсітэта на спецыяльнасць «археалогія». Правучыўся там адзін курс, потым перавёўся на завочнае аддзяленне. А пасля ўвогуле кінуў вучобу.

«У яго цікавыя прынцыпы. Лічыць, што ва ўніверсітэце яго ніхто нічому не навучыць, — кажа паплечніца Кіркевіча Вераніка Велігор. — Але сам увесь час самаўдасканальваецца. Запоем чытае. Алесь — чалавек эмацыйны. Гэта не заўсёды добра. Але імкнецца абавязкова давесці справу да канца».

«Ідэаліст, хрысціянін», — кажа пра яго Іван Шыла.

### «Моцны чалавек»

«Алесь вырашыў, што цяпер для яго больш важная палітычная дзейнасць, а навучанне можа пачакаць», — расказвае Надзея Крапівіна.

Яна кажа, што сама некалі так лічыла. Але цяпер навучаецца на гісторыка ў польскім Любліне па праграме Кастуся Каліноўскага. «Канечне, адлегласць — гэта праблема, але мы вырашылі, што зможам яе пераадолець», — кажа Крапівіна.

«Апошняя наша размова была пра тое, як мы правядзём выходныя ў Варшаве. Можа, падумалі, што Алесь хоча ўцячы, і яго арыштавалі. Але ён ніколі не хацеў выязджаць з краіны», — гаворыць жонка Кіркевіча.

«Алесь — моцны чалавек. Матываваны, арганізаваны... А я... Я проста яго кахаю», — працягвае дзяўчына.

«Пасля затрымання шмат плакала. Хаця ў нейкім сэнсе мы гэтага чакалі. Застаецца толькі спадзявацца, што гэтыя выпрабаванні мы з гонарам вынесем».

**Зміцер Панкавец**


Алесь і Надзея ажаніліся праз два гады пасля знаёмства.

**Апошні верш, які Алесь Кіркевіч даслаў у Рэдакцыю «НН» перад арыштам.**

### АЛЕСЬ КІРКЕВІЧ

* * *

На полі цудаў засталіся мы ўдвох:
Я ды… Усёмагутны Бог.
Налева — зырк, направа — зырк:
Сусвет гарыць агнямі, нібы цырк,
Гандлюе мэтр, крычыць актор, гудзяць машыны,
Нясецца шчэ адзін герой, забыўшыся на міны,
Усе пры справе і ніводзін у журбе.
Знайсці б дзе-небудзь тут крыюўку для сябе…
«Пайдзеш?» — «Пайду». — «А можа пачакаеш?
Яшчэ гадок — жыцця зусім не знаеш…» —
«Я…» — «Ведаю і ведаў загадзя,
Заросла мохам роспачы ладдзя,
Вазьмі што іншае, падумай, прыгадай
Каб адляцець куды? У Р-А-Й». —
«Ура» — маскальскі кліч», — сказаў. Асёкся. Праглынуў.
«А наш — «Рубон», — і, як прыдурак, лыч замкнуў.
Ён паглядзеў мне ў вочы, а пасля — на лес, пасля — зноў на мяне.
Я зразумеў, чым тут цяпер стаяць, мне ўтапіцца лепей у лайне…
«Прабачце», — я кажу. Ён усміхнуўся — я збялеў.
«Хаціш ісці — ідзі!» — і схамянуліся дзясяткі дрэў.
(Гасподзь не паважаў літаратурнай мовы.)
«А… хоць якія там умовы?» —
Паспеў спытаць. Дарма спытаў. Кляну сябе.
Усё лепшае, вучылі мяне так, ствараецца ў барацьбе…
«Не. Пачакай. Пастой тут. Рэчы пры табе?»
(Тут акурат машына праняслась — Пачобута вязлі ў КДБ.)
«Пры мне». — «А ведаеш… Я пазваню, трымай!»
Расплюшчыў вочы я — у руцэ кардонны пачак, напісана «Чай».
Я паглядзеў, я азірнуўся, бачу толькі панараму:
Начное поле, на ўзбочыне агні, экраны,
Там шоу: Ірына Дарафеева, Зімоўскі, RockerJoker.
Вось тоўсты дзядзька з вертыкалі, кажуць, «полупокер».
Пайду… шукаць дарогу ды адказы на пытанні «Што? Дзе? Як?»
Я памалюся за сяброў ды… пачак пакладу ў пляцак.

# «Я не зраблю нічога, за што было б сорамна»



Марына Адамовіч (з партрэтам Статкевіча) падчас акцыі ля КДБ. Злева — палкоўнік МУС Ігар Яўсееў.

## У лісце да грамадзянскай жонкі Мікола Статкевіч піша, што спыніў галадоўку. Тым часам яе саму затрымалі на пікеце салідарнасці.

Марына Адамовіч атрымала чарговы ліст з СІЗА КДБ 29 студзеня. Калі ранейшыя лісты палітвязняў выклікалі падазрэнні — надта ўжо казённы быў іх стыль, — дык у аўтарстве гэтага пісьма, кажа жанчына, сумнявацца не даводзіцца.

«Мікола піша пра такія дэталькі, якія мог ведаць толькі ён», — кажа Марына Адамовіч.

З ліста вынікае, што Статкевіч перапыніў 12 студзеня галадоўку.

«Піша, што галадоўка праходзіла вельмі цяжка на фоне траўмы. Не ведаю, ці гэта траўма была атрыманая падчас Плошчы ці ўжо пасля. У адным месцы ліста было напісана, што яму ставілі кропельніцу», — працягвае спадарыня Марына.

Агулам Статкевіч трымаў галадоўку 24 дні. Цяпер ён ужо аднавіў штодзённыя шпацыры. «Піша: «Мой галодны злобны арганізм з'еў большую частку мускулатуры. Цяпер, каб яе аднавіць, займаюся гімнастыкай». Выглядае, што перадачкі, хаця б часткова, да Міколы даходзяць. Напісаў, каб за ягоны псіхічны стан не хваляваліся. «Я не зраблю нічога, за што было б сорамна», — расказвае спадарыня Марына.

Ліст датаваны 23 студзеня.

А 30 студзеня, у нядзелю, Марына Адамовіч з партрэтам Міколы выйшла на акцыю салідарнасці да сценаў КДБ. Акцыю хуценька разагналі.

Жанчына апынулася ў аўтазаку. Пратакол на яе складалі ў Цэнтральным РУУСе. Ноч Адамовіч правяла на Акрэсціна.

Назаўтра суддзя Вікторыя Шабуня пакарала яе 30 базавымі велічынямі (крыху больш за мільён рублёў) штрафу. Цікава, што на судзе міліцыянты сведчылі, што жанчына стаяла на пікеце з партрэтам Уладзіміра Някляева.

Марына Адамовіч — доктарка. Доўгі час яна працавала выкладчыцай у Медыцынскім універсітэце. Да выбараў Марына і Мікола вырашылі афіцыйна не распісвацца, бо чакалі самага рознага развіцця падзей.

**ЗП**

# «У нас нікога не звальняюць»

Новая хваля звальненняў за палітыку.

Фармальна падставамі для звальнення і выключэння служаць пропускі на працы і непаспяховасць на вучобе. Але праблемы ўзнікаюць спрэс ва ўдзельнікаў падзей 19 снежня і актывістаў передвыбарчай кампаніі.

Адлічваць за прагулы людзей, якія знаходзіліся пад адміністрацыйным арыштам, па законе нельга. Таму шукаюць іншыя варыянты. Так, маляра з Мінска Юрася Шпак-Рыжкова, які дзесяць сутак правёў у жодзінскім ізалятары за ўдзел у Плошчы, звольнілі за прагулы нібыта напярэдадні выбараў. Юрась быў назіральнікам на датэрміновым галасаванні ад Партыі БНФ на адным са сталічных участкаў.

Па ўласным жаданні прапанавалі сысці ахоўніку мінскага ГЦ «Карона», актывісту «Еўрапейскай Беларусі» Вячаславу Дашкевічу. Малады чалавек знаходзіўся на выпрабавальным тэрміне.

Настаўніка адной з мінскіх школ (ён папрасіў нас не называць нумара) Генадзя Гатоўчыца, які быў арыштаваны на 10 сутак 19 снежня, звольнілі «за амаральныя паводзіны, не сумяшчальныя з працай настаўніка».

З настаўніцай гісторыі з Талькі (Пухавіцкі раён) Наталляй Ільініч, сяброўкай Партыі БНФ і ініцыятыўнай групы Рыгора Кастусёва, не працягнулі кантракт. Афіцыйнай падставай для гэтага сталі памылкі пры вядзенні журналаў і «прагулы»... 30 і 31 снежня.

Да таго ж 5 студзеня ў Наталлі Ільініч правялі ператрус: шукалі «орудия преступления», а забралі камп'ютар.

Паводле звестак старшыні камітэта дапамогі рэпрэсаваным «Салідарнасць» Іны Кулей, 61 чалавеку пагражалі звальненнем або адлічэннем за ўдзел у падзеях 19 снежня ў Мінску. Прычым відомыя ж далёка не ўсе выпадкі — нехта баіцца афішаваць, каб не стварыць праблемы родным, іншыя не хочуць падымаць шум у спадзеве ўладкавацца на новае месца. Але менавіта галоснасць застаецца магчымасцю неяк паўплываць на сітуацыю, лічыць спадарыня Іна.

Тых жа, хто атрымаў на рукі дакументы пасля звальнення ці адлічэння, каля дваццаці чалавек. Дапамогу адлічаным студэнтам прапанавалі замежныя ВНУ, куды прымаюць і звольненых выкладчыкаў. Ад 1 лютага распачаўся таксама набор па праграме Каліноўскага. Як паведаміла Іна Кулей, набор будзе дзейнічаць да пачатку наступнага навучальнага года. Таксама «Салідарнасць» шукае магчымасці дапамагчы з працаўладкаваннем звольненым за ўдзел у падзеях 19 снежня.

**Сяргей Макарэвіч**



**Пікет салідарнасці ля беларускай амбасады ў Маскве.**

**Камітэт дапамогі рэпрэсаваным «Салідарнасць»**
Мінск, 220005 а/с 148
e–mail: plosca2006@yahoo.com
Т.: (29) 620-34-87

**Спіс адлічаных і звольненых:**

**Маўлюда Атакулава**, Нацыянальны парк «Прыпяцкі», перавялі з пасады эканаміста ў гатэлі ў сельскагаспадарчы комплекс;
**Валянціна Бусько**, адвакатка Гродзенскай абласной калегіі;
**Сяргей Васільеў**, Мёры;
**Ілля Васілевіч**, Мінскі політэхнічны каледж;
**Андрэй Вількін**, дацэнт кафедры фізічнага выхавання Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта;
**Таццяна Грыбоўская**, гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта;
**Генадзь Гатоўчыц**, выкладчык майстэрства акцёра ў адной з мінскіх школ;
**Дашкевіч Вячаслаў**, ахоўнік у мінскім ГЦ «Карона»;
**Іван Жылінскі**, механік аўтапарка з Астраўца, быў назіральнікам на выбарах;
**Наталля Ільініч**, выкладчыца гісторыі з Талькі;
**Паліна Кур'яновіч**, тэхнік сувязі на дзяржпрадпрыемстве;
**Дзяніс Лазар**, слесар, ААТ «Белтрангаз»;
**Аліна Літвінчук**, Берасцейскі дзяржаўны ўніверсітэт;
**Андрэй Лугін**, Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт;
**Канстанцін Лукашоў**, навуковец-геолаг Акадэміі навук Беларусі;
**Алесь Ляўчук**, берасцейскі карэспандэнт газеты «Знамя юности» (з ягоных словаў, за адмову апісваць падзеі ў негатыўным святле);
**Ігар Мацвееў**, лабарант сацыяльнай псіхалогіі, Беларускі дзяржаўны педуніверсітэт;
**Захар Міхалкін**;
**Ірына Панкавец**, кухар сярэдняй школы Барысава;
**Юрась Шпак-Рыжкоў**, супрацоўнік камунальнага прадпрыемства «Мінскгарсвятло», назіральнік за выбарамі ад партыі БНФ;
**Арцём Хвасцюк**, студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі;
**Сяргей Хмараў**, слесар з Наваполацка.

ДАДАЙ СВАЮ ІНФАРМАЦЫЮ.

# АНТ выкрывае Дзмітрыева

На тэлеканале АНТ у перадачы «Контуры» з'явіўся сюжэт, прысвечаны кіраўніку штаба Уладзіміра Някляева Андрэю Дзмітрыеву. Расказвалася, колькі кватэр, машын, участкаў набыў Дзмітрыеў за апошні год. А таксама колькі разоў ён лётаў за мяжу бізнэс-класам.

Паводле інфармацыі тэлеканала, за апошні год Андрэй Дзмітрыеў набыў кватэру ў элітным доме за 200 тысяч даляраў, пляц пад дом пад Мінскам, а таксама аўтамабілі «Лексус» 2006 года і «Таёта» 2005 года.

На жаль, «НН» не ўдалося звязацца з аўтарамі рэпартажу АНТ, каб атрымаць ад іх дакументальныя доказы таго, што спадар Дзмітрыеў валодае такой маёмасцю. У прэс-службе тэлекампаніі патлумачылі, што такой магчымасці няма.

Сам Андрэй Дзмітрыеў у гутарцы з карэспандэнтам «НН» назваў рэпартаж АНТ «кінастужкай пра тры магнітафоны і тры партсігары імпартныя». Паводле яго словаў, у сюжэце АНТ быў паказаны аўтамабіль блізкіх яму людзей, а ён валодае толькі адным аўтамабілем і адной двухпакаёвай кватэрай. «Прапаганда спрабуе згуляць на зайздрасці. Маўляў, людзі павінны зайздросціць апазіцыянерам, бо тыя могуць мець машыны і кватэры. Але я спадзяюся, што гэтага не будзе. Я нармальны чалавек, мне 30 гадоў, чаму я не магу мець аўтамабіль і кватэру?» — гаворыць былы кіраўнік штаба Някляева.

Андрэй Дзмітрыеў судзіцца з АНТ не збіраецца і лічыць такія сюжэты спробай ачарніць як яго асабіста, так і апазіцыю ў цэлым. «Я не пакрыўдзіўся на іх. Не збіраюся падаваць у суд і не думаю, што з гэтым варта лічыцца. З іншага боку, хацелася б пабачыць сюжэты аб маёмасці беларускіх чыноўнікаў. Там ёсць што паказаць», — зазначыў А.Дзмітрыеў.

**Алесь Пілецкі**

# Віктар Лукашэнка наведаў Катар

Дамаўляцца наконт звадкаванага газу?

Памочнік Аляксандра Лукашэнкі па нацыянальнай бяспецы і па сумяшчальніцтве — яго старэйшы сын Віктар сустрэўся з эмірам Катара шэйхам Хамад бін Халіфам Аль Сані ў сталіцы Катара Доха 30 студзеня.

«Перамовы тычыліся супрацоўніцтва паміж Катарам і Беларуссю па шэрагу пытанняў, якія ўяўляюць узаемную цікавасць», — піша Gulf Times.

На сустрэчы прысутнічаў старшыня эмірскай канцылярыі, намеснік прэм'ер-міністра Катара Абдула Бін Хамад Аль-Атыя. Ён узначальвае нафтавую дзяржкампанію Qatar Petroleum, адзначае БелаПАН.

Катар — адзін з найбуйнейшых у свеце вытворцаў звадкаванага газу.

**СМ**

# Наталля Пяткевіч спрабавала ўладкавацца ў «Прыёрбанк»?

Больш за месяц прайшоў пасля звальнення Наталлі Пяткевіч з пасады першай намесніцы кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта з фармулёўкай «у сувязі з пераводам на іншую пасаду». За гэты час чыноўніцы, якая некалькі гадоў кіравала ідэалогіяй краіны, прадказвалі розныя пасады: пасаду міністра адукацыі ці міністра юстыцыі.


PHOTO.BYMEDIA.NET

Выказвалася нават версія, што Пяткевіч можа ўзначаліць Канстытуцыйны суд.

А вось інтэрнэт-сайт Агенцтва фінансавых навінаў паведаміў са спасылкай на крыніцу ў банкаўскіх колах краіны, што Н.Пяткевіч спрабавала ўладкавацца на працу ў «Прыёрбанк».

На думку суразмоўцы, кіраўніцтва банка наўрад ці адкрытым тэкстам адмовіла Пяткевіч. «Прыёрбанк» — гэта дачка аўстрыйскага банка Raiffeisen, а таму рашэнне аб працаўладкаванні на такія пасады прымаецца ў Вене, а не ў Мінску. Гаворка, безумоўна, ідзе не пра пасаду касіркі абменніка, а пра месца памочніка або дарадцы кіраўніка банка, члена праўлення.

Ані вопыту банкіра, ані выдатнага ведання замежнай мовы ў кандыдаткі на працу няма, іранізуе выданне.

Дарэчы, перш чым працаўладкоўвацца ў камерцыйную структуру, ды да таго ж з замежным капіталам, Пяткевіч неабходна ўзгадніць свой выхад з дзяржаўнага кадравага рэестра на самым высокім узроўні.

На думку палітолага Валера Карбалевіча, звальненне Пяткевіч магло быць пакараннем за правал ідэалагічных кампанентаў прэзідэнцкіх выбараў.

**Сяргей Гезгала**

# Казулін аднавіў барацьбу за статус

Пакуль адны сядзяць, другія ваююць за доступ у Брусэль.

Апазіцыйныя палітыкі паўтараюць памылкі, якія рабілі ў папярэднюю пяцігодку. На гэты раз сепаратную гульню распачаў Аляксандр Казулін. Ён прамаўчаў перыяд выбараў, а пасля 19 снежня вярнуўся ў актыўную палітыку.

Ён удзельнічаў у вялікім еўрапейскім турнэ разам з Сяргеем Калякіным, Станіславам Шушкевічам і Дзянісам Садоўскім. Гэтая мінікааліцыя заснавала ў Варшаве прадстаўніцтва беларускай апазіцыі. З імі зблізіліся асобы, якія шчыльна ўдзельнічалі ў кампаніі «Гавары праўду».

Прычынай для міні-скандалу гэтым разам стаў зварот, які быў уручаны падчас сустрэчы беларускай дэлегацыі з міністрам замежных спраў Галандыі. Перадаў яго экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Казулін.

Гэты факт абурыў Аляксандра Мілінкевіча, з якім тэкст не ўзгаднілі, хоць яны з Казуліным наведвалі Гаагу разам. Больш за тое, па словах Мілінкевіча, зварот быў зроблены ад імя Каардынацыйнай рады дэмакратычных сіл, хаця ні ён, ні іншыя члены рады пра зварот не ведалі.

Сайт Руху «За Свабоду» зазначыў, што «гэты прыкры факт калі не сведчыць пра амбіцыйную спробу ўзурпацыі кааліцыйнай шыльды ці маніпуляцыі ёю, дык, прынамсі, ставіць пад сумнеў магчымасць сапраўды прыстойнай супольнай працы апазіцыйных сілаў у межах Каардынацыйнай рады. На жаль, гэта адбылося на фоне падзеяў вакол і ўнутры Беларусі, якія вымагаюць разважлівых паводзін і рашэнняў, а таксама мусяць паспрыяць салідарнасці і маральна-палітычнаму аздараўленню апазіцыі».

Казулін у інтэрв'ю «Народнай волі» сказаў, што прэтэнзіі Мілінкевіча «смешныя і дзіўныя. Па-першае, ніякіх зваротаў ад імя Рады я нікому не перадаваў. Па-другое, тэкст звароту, які атрымаў міністр замежных спраў Галандыі, быў узгоднены з Аляксандрам Мілінкевічам. Мы разам абмяркоўвалі яго па пунктах. «Мы» — гэта не толькі я і Мілінкевіч, тады было б незразумела, каму верыць, але таксама Дзяніс Садоўскі [прадстаўнік Беларускай хрысціянскай дэмакратыі], Ева Някляева [дачка лідара кампаніі «Гавары праўду»] і Юлія Слуцкая».

Некаторыя іншыя палітыкі пацвердзілі, што заява сапраўды ні з кім не ўзгаднялася. Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч сказаў у інтэрв'ю інтэрнэт-выданню «Мы», што нічога не ведаў пра падрыхтоўку такога дакумента. «Рэчы кшталту таго, што зрабіў спадар Аляксандр Казулін, негатыўна ўплываюць на магчымасць супрацоўніцтва дэмакратычных сілаў унутры краіны і на стаўленне да іх за мяжой», — кажа ён.

Не ў курсе, што за дакумент абнародаваў Казулін, Станіслаў Багданкевіч з АГП.

А старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук уразіўся: «Шчыра кажучы, не верыцца, што палітык пайшоў на такі крок. Як мінімум, такія дзеянні павінны абмяркоўвацца з калегамі па Радзе. Нашто тады ўсё гэта стварась? Каб потым чарговы раз пасварыцца і разбегчыся? Людзі ж не пешкі, каб іх па клетках перасоўваць і маніпуляваць імі... Паўтаруся, складана паверыць!»



2. New elections to be held: risks by postponement or cancellation
According to the OSCE report the presidential elections were accompanied by gross violations of electoral legislation by the authorities and did not meet international standards of free, fair and democratic elections. Half of the vote counting was monitored by the OSCE as *bad* of *very bad*. Given the fact that Lukashenko is not able to move easily and fully towards Russia, the fact that the privatizations of Belarusian companies to Russian industrials and the fact that already half of the Belarusian population is positively EU-minded, we urge the Dutch Minister not be afraid of demanding new elections in Belarus. The opposition is aware that The Netherlands and the EU consider these developments as important and possible risks, thus we hope that balancing the developments will lead to the demand of new elections. Not demanding new elections would lead to the economic ownership of Belarus by Russia.

3. Smart and progressive economic pressure: usage of trade-relations
With great interest the Belarusian Opposition follows the debates about setting economic pressure towards Belarus. Lukashenko does not have to be given the luxury to be welcome at the Russian Federation or the EU. We urge the Dutch Minister to plea for gradually increasing economic pressure from east and west. Pressure needs to be imposed immediately and aggravated regularly (each month or two) until the Belarusian regime releases the political prisoners, meets the '12 conditions' and organizes fair elections. Furthermore the Belarusian Opposition stresses that economical pressures should not only be considered by foreign and diplomatic grounds by the ministries of Foreign Affairs, but especially also should be decided on by the ministries of Economic Affairs of the EU and Russia. The Belarusian opposition urges both the Dutch Minister of Foreign Affairs, mr. Rosenthal, and the Dutch Minister of Economical Affairs, mr. Verhagen, to initiate a dialogue between the EU and Russia in order to develop a EU-policy on 'businesses and human rights for Belarus'. The aim of this policy should be the coordination of economic policy between the EU and Russia towards Belarus, resulting in a common approach based on trust between EU and Russia. This will avoid Lukashenko to exploit both EU and Russia on the costs of human rights in Belarus.

4. Recognizing and strengthening the Belarusian opposition, free media and civil society
The Belarusian Opposition asks for support of the Dutch Minister of Foreign Affairs at the European Council of Ministers of Foreign Affairs on the issue of strengthening the opposition and civil society. We believe that strengthening the opposition is important in order to offer Belarus a clear and united alternative for Lukashenko. The opposition has proven to be willing to unite as shown in the declaration from the representatives of the Belarusian Democratic Opposition in Belarus on the Situation in Belarus. As stated by the Dutch MP of the Christian Democrats, Pieter Omtzigt, who is also a member of the Parliamentary Assembly of the Council of Europe, the Belarusian opposition calls on the Dutch Minister to support the full recognition of the National Coordination Council of the Democratic Opposition as a legitimate representative of Belarus. We ask the minister for his political and financial support to strengthen the Belarusian opposition both with a training office in The Hague and a political representation in Brussels.

**Шэдэўр эпісталярнага жанру.**

У той жа час Дзяніс Садоўскі пацвердзіў «Нашай Ніве», што Мілінкевіч сапраўды бачыў гэты дакумент, але спачатку нічога не сказаў.

Трошку пазней у інтэрнэце з'явілася копія гэтага дакумента, які перадалі галандскаму паслу ад імя «ўсёй апазіцыі».

Прынцыповае разыходжанне між пазіцыяй Мілінкевіча і групы Казуліна і «Гавары праўду» знаходзіцца на старонцы 2 дакумента, у пункце 3. Там змяшчаецца заклік — англійская мова аўтараў дакумента — гэта Гугл Транслейт, але сэнс тэксту ясны — аўтары заклікаюць еўрапейцаў скаардынаваць эканамічны ціск на Беларусь з Расіяй. «Мэтай гэтай палітыкі мае быць каардынацыя эканамічнай палітыкі ў дачыненні да Беларусі між ЕС і Расіяй» (цытую даслоўна, стыль аўтараў).

Мілінкевіч падпісацца пад такім заклікам не мог. Ён выступае супраць прыцягвання Расіі да вырашэння ўнутрыбеларускіх пытанняў.

Незалежна ад зместу, сорамна, калі за дакументы выдаюцца паперкі, дзе аўтары робяць дзве памылкі ў назве месяца «студзень» па-англійску. Еўропа не будзе ўспрымаць гэта інакш як несур'ёзнасць беларускай апазіцыі.

Аляксандр Казулін гэтай спробай перацягнуць коўдру на сябе паўтарыў уласныя памылкі мінулых гадоў. Няўменне людзей, якія прэтэндуюць на лідарства, каардынаваць дзеянні ўнутры апазіцыі, выклікала тады і цяпер выклікае неразуменне і расчараванне як у Еўропе, так і ў грамадзянскай супольнасці ўнутры Беларусі.

Яно драбніца быццам бы, яйка, выедзеная на сняданку. Але сур'ёзная палітыка так не робіцца. Асабліва недарэчна глядзіцца ўся гэтая барацьба за «статус» у момант, калі 52 чалавекі сядзяць за справу.

**Барыс Тумар**

## ПОШТА РЭДАКЦЫІ

### У галоўнай ВНУ краіны няма паперы для экзаменаў?

**Я студэнтка БДУ.** Казаць пра падвышэнне аплаты за навучанне я не збіраюся — і так ужо ўсе абураныя гэтым. Але сёння мяне абурыла яшчэ адна дробязь: дэканат завочнага аддзялення Інстытута журналістыкі сказаў кожнай групе прынесці блок лістоў А4 (500 шт.), якія яны нам потым будуць выдаваць на экзамены.

У галоўнай ВНУ краіны няма паперы для экзаменаў? Не, мне не шкада 500 рублёў (з кожнага ў групе), але сам факт… Заплаціце немаленькую суму за навучанне, а пасля яшчэ і са сваёй паперай прыходзьце.

**Вікторыя, list.ru**

**Ад Рэдакцыі.** А як у Вашай ВНУ? Пішыце нам на nn@nn.by або на скайп nashaniva.

### Бурная актыўнасць міліцыі ўпустую

Я студэнт, жыву ў Мінску. Патэлефанавалі са схаванага нумара.

**Запрасілі прыйсці на Рэвалюцыйную, 3, бо мой тэлефон засвяціўся 19-га снежня.** Варта адзначыць, што сімка зарэгістраваная на маю сяброўку.

Яна жыве ў Баранавічах. Я спачатку думаў не ісці, але тэлефанавалі 3 дні запар. Каб яны ад мяне адчапіліся, вырашыў пайсці, тым больш што мне няма чаго хаваць, я актыўнага ўдзелу не браў і быў далёка ад месца асноўных дзеянняў. Ну там некалькі стандартных пытанняў задалі, заняло каля 7 хвілінаў.

Я сказаў, што карыстаюся гэтым нумарам ужо больш за год. Мяне нават не фоткалі.

І тут мне сёння (19 студзеня) тэлефануе сяброўка з Баранавічаў у паніцы.

Кажа, што да яе раніцай прыехалі супрацоўнікі міліцыі і адвезлі на тлумачэнне, адкаталі пальцы, знялі на фота.

Яна наогул не была на плошчы!

І цяпер вельмі баіцца, што не зможа выехаць за мяжу.

Што за бясчынства такое?

**Daemons88, tut.by**

### Беларусь і радыё fm

Больш за месяц прайшло з тых падзей, калі ў Беларусі ўсё перавярнулася з ног на галаву: хлусня зрабілася праўдай, а крывадушнасць — нормай жыцця.

Больш за месяц я жыву нібы ў кашмарным сне, хоць разумею, што гэта не сон, а ява. Ява маёй краіны. Уключаю некалькі разоў у дзень інтэрнэт, з надзеяй учытваюся ў радкі навінаў, баюся прапусціць штосьці важнае. У сэрцы — боль за людзей, якія нявінна пакутуюць, за найлепшых нашых суайчыннікаў. І яшчэ сорам… Сорам ад таго, што так мала магу зрабіць у гэтай сітуацыі!

Расказваю родным і знаёмым апошнія навіны. Тлумачу сваім дзецям, што насамрэч дзеецца ў нашай краіне. Бо яны ходзяць у школу. А ў школе праўдзе не вучаць. Спрабую пагаварыць пра апошнія падзеі, якія ўжо ўвайшлі ў найноўшую гісторыю нашай краіны, са сваімі знаёмымі-настаўнікамі (сама я некалькі гадоў ужо не працую ў школе).

Некаторыя адмахваюцца: «Пра што ты? Супакойся!» Некаторыя наракаюць, што ім няма калі пра гэта думаць, ды і ў школе не прынята пра гэта разважаць. А прынята ў школьных кулуарах па-ранейшаму жаліцца на сваё беднае жыццё-быццё, на сціплы заробак і горы папераў.

Ідучы па вуліцах роднага Гомеля, узіраюся ў твары мінакоў, чую звычайныя абрыўкі фразаў. Як быццам нічога не адбылося!

Не магу забыцца пра словы В.Рымашэўскага, які сказаў, што падчас шпацыраў у панадворках СІЗА КДБ на поўную гучнасць уключалі беларускія fm-радыёстанцыі з іх традыцыйнымі віктарынамі, музычнымі віншаваннямі. Мне здаецца, што вялікая частка насельніцтва Беларусі падобная да гэтых радыёстанцый: цынічна і абыякава робіць выгляд, што вакол нічога не адбываецца. Толькі чакае, што ўсё для іх зменіцца да лепшага. Сорамна і горка!

**Ірына Храмава, Гомель**

### Сукамернікі: Мы не асуджаем студэнта, якога паказалі на БТ

**Добры дзень!**

На 28 мін. 15 сек. гэтага хлуслівага фільма БТ паказаныя сведчанні маладога чалавека, які адбываў свае 10 сутак арышту са мной у адной камеры Жодзінскага СІЗА.

Яго прозвішча Лугаўскі, зваць Сяргей. Студэнт БДУ гістарычнага факультэта.

З камеры на 3-я суткі яго выклікалі на размову супрацоўнікі КДБ. Калі ён вярнуўся, на яго было страшна глядзець.

Калі ён вярнуўся, на яго было страшна глядзець.

Ён быў бледны, дрыжаў, відаць было, што ў яго паніка. Ён расказаў, што на яго псіхалагічна ціснулі, пагражаючы адлічэннем з БДУ, а то і турэмным зняволеннем, калі Сяргей не раскажа на відэакамеру тое, што мы ўбачылі ў гэтым фільме. Ён не пагадзіўся, і яму далі некалькі хвілін падумаць. У камеры з 8 чалавек 6 былі старэйшыя за яго. Ён раіўся, як зрабіць. Мы адзінагалосна падтрымалі яго, сказаўшы, што ніхто не асудзіць, калі ён выканае патрабаванне супрацоўнікаў КДБ. Яшчэ аднаго студэнта БДУ выклікалі з такім жа намерам, але ў гэтым фільме яго не паказалі.

**Аляксандр, даслана праз скайп nashaniva**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.
e-mail: nn@nn.by.**




**У Егіпце — народнае паўстанне. Ужо тыдзень сотні тысяч людзей на вуліцах патрабуюць адстаўкі Хосні Мубарака. Мубарак кіруе краінай ужо 30 гадоў. Гэта быў мяккі аўтарытарны рэжым, у чымсьці падобны да беларускага. Мубарак абапіраўся на фінансавую падтрымку ЗША. Гэта былі «грошы ўзамен за мір» — мір з Ізраілем.**

# Някляеў: «Там было няпроста»

Працяг са старонкі 1.

«Вялікі дзякуй усім! Удзячны за падтрымку», — паспеў сказаць Някляеў.

«Як Вы правялі гэты месяц у СІЗА КДБ?» — запытаўся карэспандэнт «НН» на хаду. — «Там было няпроста», — паспеў адказаць Някляеў. І яго завялі ў пад'езд, куды доступ журналістам быў перакрыты.

У блогах і сацыяльных сетках заклікалі ў нядзелю ўранку прыйсці пад вокны кватэры экс-кандыдата і прывітаць яго. Прызначылі нават час — 12 гадзін. Аднак, акрамя журналістаў, ніхто не прыйшоў.

Да відэакамер выйшла жонка паэта Вольга і распавяла аб першых уражаннях ад пераводу мужа пад хатні арышт: «Ён толькі ад мяне можа атрымліваць інфармацыю. Чытаць газеты, глядзець тэлебачанне, падыходзіць да вокнаў нельга. Мы ўдзячныя вельмі за салідарнасць. Толькі дзякуючы гэтаму Уладзімір цяпер дома».

## Някляеў перанёс у СІЗА чатыры гіпертанічныя крызы.

Як доўга будзе працягвацца хатні арышт Уладзіміра Някляева, невядома. За домам экс-кандыдата сочаць супрацоўнікі спецслужб. Двое з іх дзень і ноч знаходзяцца ў кватэры Някляевых. Самаму экс-кандыдату забаранілі нават з дачкой праз тэлефон пагаварыць.

Паводле словаў Вольгі Някляевай, да мужа не пускаюць і доктара. Адвакатка Тамара Сідарэнка паведаміла журналістам, што ў СІЗА кандыдат у прэзідэнты перанёс чатыры гіпертанічныя крызы. «Медыцынская дапамога яму аказвалася, але не бяруся судзіць пра яе дастатковасць, — адзначыла яна. — Мабыць, адбіваюцца наступствы траўмы, нанесенай 19 снежня. Ён жаліцца на галаўны боль, не заўсёды можа ўспомніць людзей і падзеі», — распавяла Сідарэнка.

**Алесь Пілецкі**


АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

# Наталля Радзіна: Прызнавацца і каяцца мне не было ў чым

Рэдактарка сайта «Хартыя-97» Наталля Радзіна 28 студзеня выйшла на волю з ізалятара КДБ. Пасля гэтага яна паехала да Вольгі Бандарэнкі, жонкі зняволенага каардынатара «Еўрапейскай Беларусі» Змітра Бандарэнкі. Там і заспеў яе званок ад «НН».

**«Наша Ніва»: Наталля, на падставе чаго цябе вызвалілі?**

**Наталля Радзіна:** Выпусцілі на ўмовах падпіскі аб нявыездзе. Толькі загадалі, што я павінна жыць падчас следства ў Кобрыне, па месцы рэгістрацыі. Натуральна, мушу з'яўляцца на допыты і іншыя следчыя дзеянні.

**«НН»: Статус абвінавачанай застаўся?**

**НР:** Так, тут без змяненняў.

**«НН»: Што стала прычынай твайго вызвалення?**

**НР:** Толькі салідарнасць. Прызнавацца і каяцца мне не было ў чым. Я гэта ўвесь час казала следчым. А што да вызвалення, то тут сваю ролю адыгралі патрабаванні ЗША і Еўропы. Цяпер аднаўляю карціну таго, што адбывалася ў краіне і за яе межамі за час майго зняволення.

**«НН»: А нейкая інфармацыя ў камеру даходзіла?**

**НР:** Вельмі мала. Да мяне дайшоў толькі адзін ліст ад мамы. Што датычыць газет, то сябры падпісалі на «Народную волю», «Нашу Ніву», «Камсамолку», «Аргументы і факты». Даходзілі толькі дзве апошнія. «Нашай Нівы» не дайшло ніводнага нумара. Тэлевізара ў камеры таксама не было.

**«НН»: Якія ўмовы ўтрымання?**

**НР:** Я не магу пра гэта расказваць. Але, у прынцыпе, у жаночай частцы ізалятара нармальныя. Толькі трэба мець на ўвазе, што гэта турма, а не курорт.

**«НН»: Чаму да зняволеных так рэдка дапускалі адвакатаў?**

**НР:** Нам гэта не тлумачылі.

**«НН»: Пасля сустрэчы з адвакатам была інфармацыя, што ў цябе праблемы са здароўем. Як цяпер?**


PHOTO.BYMEDIA.NET

**НР:** Больш-менш нармальна. Але адразу пасля затрымання было не вельмі. Я была збітая. Выклікалі хуткую дапамогу. Потым мяне аглядваў турэмны афтальмолаг. Адляжалася тыдзень і стала цярпіма. Пакутавала ад галаўнога болю. Быў бранхіт.

**«НН»: Нагадай, калі ласка, як цябе затрымлівалі.**

**НР:** Прыкладна а чацвёртай раніцы ў дзверы офіса «Хартыі» пачалі званіць і ламіцца. Перад гэтым мне патэлефанавала мама, якая знаходзілася ў кватэры, дзе я жыву. Казала, што прыходзілі мяне шукаць. Я адразу пачала тэлефанаваць праваабаронцам. Аднак дзверы вельмі хутка выламалі. Былі людзі ў масках. Спачатку не ведала, што мяне вязуць у «амерыканку».

**«НН»: Так разумею, што журналісцкай працай ты не спыніш займацца?**

**НР:** Безумоўна, не. Калі мяне вызвалялі, то сказала пра гэта кадэбістам. Маўляў, вы ж разумееце, што я буду працягваць рэдагаваць сайт «Хартыі-97». Ніхто мне на гэта нічога не адказаў.

**«НН»: Як думаеш, астатнія вязні таксама хутка будуць на волі?**

**НР:** Усё залежыць ад людской салідарнасці.

У панядзелак Радзіна прыбыла на месца «ссылкі», у Кобрын.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

## Уладзімір Халіп: Ніякіх правоў Ірына не мае

Бацькі і сын — гэта адзіныя людзі, з якімі можа бачыцца журналістка Ірына Халіп.

**«Наша Ніва»: Як даведаліся, што дачцэ зменена мера стрымання?**

**Уладзімір Халіп:** Сядзелі вечарам у кватэры, як пачуўся званок у дзверы. З'явіліся нейкія людзі, паведамілі аб хатнім арышце. Правяралі памяшканне. Потым з'явілася і сама Ірына. Цяпер два кадэбісты ўвесь час яе пільнуюць.

**«НН»: Што Ірына мае права рабіць і што не мае?**

**УХ:** Ніякіх правоў яна не мае. Ёй толькі памянялі месца зняволення. Абвінавачванні не знялі. Але ўлады будуць мець у Еўропе новы козыр, што вось людзі не ў турмах.

**«НН»: Як Данік рэагаваў на знаходжанне ў доме незнаёмых людзей?**

**УХ:** Мы нічога не казалі. Ён сам пачынае разумець, што свет дзеліцца не толькі на дабро, але і на зло. Гэта раней вакол яго былі толькі добрыя людзі. Цяпер ён запытаўся, ці добрыя гэта людзі. Мы адказалі, што так. Тады ён троху супакоіўся.

**«НН»: А як Ірына тлумачыла сваю адсутнасць?**

**УХ:** Сказала, што была ў ад'ездзе. Зрэшты, Данік не асабліва цікавіўся. Ён проста абняў яе за шыю і сядзеў моўчкі. Раней ніколі такога не было. Пасля яе вяртання звычайна Данік скакаў, бегаў вакол яе.

**«НН»: Можа, ёсць нейкія намёкі, што хутка і Андрэй Саннікаў будзе дома?**

**УХ:** Не будзе такога.

**Гутарыў ЗП**

**Хатні арышт**

Згодна з артыкулам 125 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса РБ, хатні арышт можа суправаджацца наступнымі мерамі, якія ўжываюцца як паасобку, так і ў дапушчальнай сукупнасці:

1) забаронай выхаду з жытла поўнасцю або ў пэўны час;
2) забаронай тэлефонных перамоў, адпраўлення карэспандэнцыі і выкарыстання сродкаў сувязі, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных пунктам 5 часткі другой гэтага артыкула;
3) забаронай мець зносіны з пэўнымі асобамі і прымаць каго б там ні было ў сябе;
4) прымяненнем электронных сродкаў кантролю і ўскладаннем абавязку насіць пры сабе гэтыя сродкі і абслугоўваць іх работу;
5) ускладаннем абавязку адказваць на кантрольныя тэлефонныя званкі або іншыя сігналы кантролю, тэлефанаваць па тэлефоне ці асабіста з'яўляцца ў пэўны час у орган дазнання ці іншы орган, які ажыццяўляе нагляд за паводзінамі падазронага або абвінавачанага;
6) усталяваннем нагляду за падазраваным ці абвінавачваным або яго жыллём, а таксама аховай яго жылля або адведзенага яму ў жыллё памяшкання;
7) іншымі падобнымі мерамі, якія забяспечваюць належныя паводзіны і ізаляцыю падазраванага, абвінавачанага ад грамадства.

## Сяргей Вазняк: Умовы ў турме вельмі цяжкія

Каардынатар «Гавары праўду» Сяргей Вазняк таксама вызвалены пад падпіску.

«Мяне выцягнулі з кватэры ў палову на пятую раніцы, калі я спаў. Але было ўсё спакойна. Далі апрануцца. Завезлі ў цэнтральны будынак КДБ. Потым раніцай перавялі ў «амерыканку». Было тры допыты ў прысутнасці адвакатаў. З іх было зразумела, што мяне могуць вызваліць пад падпіску аб нявыездзе.

Умовы ў турме вельмі цяжкія. Нават не чакаў, што будзе настолькі цяжка і ў фізічным, і ў маральным плане. Моцнае выпрабаванне. Найбольш пакутавалі ад перанаселенасці. Нараў усім не хапала. Даводзілася спаць на збітых дошках. А яшчэ заставаўся ў поўнай ізаляцыі. Ніводнага пісьма да мяне не дайшло, ніводнай газеты. Нават не ведаў, як мае родныя, дзеці. Ці помніць яшчэ нехта пра мяне.

Стаўленне персаналу было нармальным. Хаця ў мяне было некалькі канфліктаў з канвоем. У прынцыпе, было кепска, як усім астатнім. Што датычыць мяне, то не думаю, што нехта лічыць мяне вялікім злачынцам. Спадзяюся, вельмі жорсткіх рашэнняў у дачыненні да мяне не будзе. Было б вельмі добра, каб справу проста спынілі. Гэта б станоўча ацанілі як прыхільнікі Лукашэнкі, так і праціўнікі. За мяжой была б такая самая рэакцыя».

**Запісаў ЗП**

# Уладзімір Кобец: Спадзяюся, што пачнуць выпускаць і іншых вязняў




Позна ўвечары 26 студзеня з «амерыканкі» выпусцілі кіраўніка выбарчага штаба Андрэя Саннікава Уладзіміра Кобеца. «Нашай Ніве» ўдалося пагаварыць з былым вязнем.

**«НН»: Калі і як Вас выпусцілі?**

**Уладзімір Кобец:** Вельмі нечакана, учора позна ўвечары. Спачатку выклікалі на звычайны допыт. Нічога не ўказвала на тое, што адпусцяць. Допыт прайшоў без нейкіх асаблівых абяцанняў. Ніхто мне не гаварыў, што маюць змяніць меру стрымання. А потым, калі ўжо завялі назад у камеру, то праз некаторы час прынеслі паперы аб меры стрымання і падпіску аб нявыездзе.

Спадзяюся, што пачнуць выпускаць і іншых вязняў. Хацелася б не памыліцца.

**«НН»: Вас прасілі напісаць ліст да Лукашэнкі альбо даць інтэрв'ю БТ?**

**УК:** Не. Ніхто мяне ні аб чым такім не прасіў. Проста прынеслі паперы аб змене меры стрымання і адпусцілі.

**«НН»: За той час, што Вы правялі ў СІЗА КДБ, удалося пабачыць яшчэ некага з «палітычных»?**

**УК:** За тыя 36 дзён, што я правёў у «амерыканцы», нікога з экскандыдатаў не бачыў. У першыя дні трапіў у камеру з тымі, хто быў на Плошчы. Аднак я не ведаў, хто гэтыя хлопцы. Але амаль увесь час я правёў у камеры, дзе было яшчэ чатыры чалавекі — усе падазраваліся ў эканамічных злачынствах.

**«НН»: Як можаце ацаніць час, праведзены ў «амерыканцы»? Стаўленне да Вас?**

**УК:** Гэта не курорт, не санаторый — гэта турма. Нельга сказаць, што там добра — гэта будзе луктой. Але і сказаць, што там гвалт — таксама няпраўда.

**«НН»: Вы атрымлівалі ўсе перадачы і лісты, якія Вам перасылалі?**

**УК:** Перадачы ўсе. Акрамя таго, што было забаронена перадаваць. Хачу вельмі моцна падзякаваць за іх, бо гэта моцная падтрымка. Адчуваць, што на свабодзе нехта клапоціцца аб табе, было вельмі прыемна і неабходна. Кожны дзень, калі атрымліваў перадачу з волі, кожная такая перадача была моцнай падтрымкай.

А што датычыць лістоў, то я за ўвесь час знаходжання ў СІЗА атрымаў толькі два. І толькі два мае лісты дайшлі.

**«НН»: Якія Вашы планы зараз? Чым плануеце заняцца?**

**УК:** Цяпер я ў сям'і. Рады, што магу бачыць жонку. Першы час хачу засяродзіцца на родных і блізкіх людзях.

Увогуле, мне трэба агледзецца, адсачыць, што адбывалася за гэтыя 36 дзён у краіне. Там я не меў такой магчымасці, практычна нічога не ведаю. Зараз хачу атрымаць інфармацыю аб тым, што адбываецца ў краіне.

А самае галоўнае — трэба падумаць, як дапамагчы тым, хто пакуль за кратамі.

**Алесь Пілецкі**

**Ад Рэдакцыі.** Цікава, што Уладзімір Кобец не атрымаў у турме ніводнага нумара «Нашай Нівы», хоць сям'я і падпісала яго на гэтую газету.

# Лукашэнка абвінаваціў Польшчу ў тэрытарыяльных прэтэнзіях, а Германіі прыгадаў Гітлера

І пасля гэтага заклікаў Захад да «чэснага, адкрытага дыялогу».

Аляксандр Лукашэнка заклікаў Захад да «чэснага, адкрытага дыялогу, без ультыматумаў і двайных стандартаў».

«Давайце шукаць кампраміс, але, шчыра прызнаючы, як усё адбылося», — заявіў Лукашэнка ў Мінску. Ён выступаў на пазачарговай сесіі палаты прадстаўнікоў з нагоды прадстаўлення прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча.

Лукашэнка паведаміў, што «ураду дадзена даручэнне прымаць адэкватныя меры на пагрозы з боку некаторых краін аб прымяненні супраць Беларусі нейкіх санкцый». Як мяркуецца, Захад прыняў прынцыповае рашэнне аб спыненні фінансавай падтрымкі Мінска. Раней Мінск абгрунтоўваў патрэбу такога фінансавання неабходнасцю аслаблення залежнасці ад Расіі.

Прапануючы дыялог, Лукашэнка ў недыпламатычных выразах абрынуўся на асобныя краіны Захаду. У Польшчы ёсць тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Беларусі, заявіў ён: «У Польшчы некаторыя спяць і бачаць: мяжа не там. Мяжа каля Мінска. Сталін не там мяжу правёў».

«Справа не ў дэмакратыі. Яшчэ не памерла пакаленне, якое не ачомалася ад нямецкай «дэмакратыі», — ушпіліў Лукашэнка сваіх нямецкіх калег.

Ён падкрэсліў, што будзе «абараняць канстытуцыйны лад». «Можа быць, нас заб'юць, скруцяць галаву, але мы не здамося», — кляўся ён.

Як вядома, Лукашэнка змяніў Канстытуцыю, каб дазволіць сабе выбірацца прэзідэнтам бясконцую колькасць разоў.

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што «не баіцца» «ніякіх санкцый» з боку Захаду, і назваў сітуацыю выбудоўваннем суверэнітэту Беларусі.

«Пужаць візамі, санкцыямі? Гасподзь з вамі. Я ў візавых абмежаваннях жыву дзясяткі гадоў — нічога не здарылася. Не трэба нас палохаць. Ніякага тупіка няма, мы пераадолелі чарговы бар'ер у выбудоўванні свайго суверэнітэту».

У эканамічнай частцы свайго выступу Лукашэнка абяцаў рост узроўню жыцця і вытворчасці ВУП да «сярэднееўрапейскіх».

«Вельмі важна, каб Савет Міністраў стаў сапраўды калегіяльным органам кіравання. Не трэба вісець над міністрамі і пастаянна імі панукваць. На цяперашнім этапе трэба перанесці ўсю адказнасць за стан эканомікі і сацыяльнай сферы на міністраў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, губернатараў, старшынь райвыканкамаў», — назваў Аляксандр Лукашэнка тых, на каго лёгка зваліць віну за невыкананне «сярэднееўрапейскіх паказчыкаў».

Акрамя іншага, у сваім выступе кіраўнік Беларусі зноў завочна размаўляў з палітвязнямі.

Ён узгадаў пра зняволенага кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і ягоную жонку Ірыну Халіп. Маўляў, яны ў любы момант могуць апынуцца на волі, калі пачнуць супрацоўнічаць са следствам.

«Чаго вы ў следчым ізалятары седзіце? Тры пытанні, тры адказы — і ідзіце», — зазначыў Лукашэнка.

Таксама ён узгадаў пра маленькага Даніка, сына Саннікава і Халіп. «Праўда ў тым, што рэальна яго ніхто не глядзеў. Адна ў Маскве, іншы — у Вашынгтоне. Дзед з бабай глядзелі гэтае малое, што і робяць цяпер».

Андрэй Саннікаў і Ірына Халіп ад 19 снежня сядзяць у СІЗА КДБ. Іхні трохгадовы сын Данік быў аддадзены пад апеку бацькам Ірыны Уладзіміру і Люцыне Халіпам.

**Мікола Бугай**

# Мая Абромчык збірае сродкі на адвакатаў

Яе чакае таксама паўторная аперацыя.




Сям'я Маі Абромчык збірае сродкі, каб аплаціць паслугі адвакатаў. Дзяўчына збіраецца даказаць, што дзеянні супрацоўнікаў праваахоўных органаў у дачыненні да яе былі неправамоцнымі.

«Цяпер у мяне ўсё добра. Я дома, у Ганцавічах. Дактары кажуць, што патрэбная паўторная аперацыя на назе. Мяркую, яна будзе ў лютым. Пакуль невядомая дакладная дата», — расказала Мая карэспандэнту «Нашай Нівы».

З універсітэта Мая пакуль ніякіх папярэджанняў у сувязі з падзеямі 19 снежня не атрымлівала (яна з'яўляецца студэнткай 4 курса гістфака БДУ): «Ніхто з універсітэта мне не званіў, з выкладчыкамі я таксама не размаўляла. Афіцыйна я на бальнічным».

Нагадаем, што вечарам 19 снежня Мая Абромчык разам са сваімі сябрамі была жорстка збітая ў раёне плошчы Незалежнасці. У акцыі пратэсту яна не ўдзельнічала, аднак гэта не спыніла спецназаўца, які біў дзяўчыну спачатку дубінкай, а потым нагамі. Пасля збіцця Мая не магла самастойна ісці ў аўтазак. Выявілася, што ў дзяўчыны раздробленая нага.

Ёй зрабілі аперацыю, але не было гарантыі, што функцыі нагі адновяцца цалкам.

Тым часам у выпісцы дактары 6 Клінічнага шпіталя Мінска пазначылі, што Мая атрымала «бытавую траўму», а скаргу на дзеянні спецназаўца далучылі да справы «аб масавых беспарадках». Па словах маці Маі, Галіны, скаргу з раённай пракуратуры перанакіравалі ў аддзел міліцыі. Бацькі Маі просяць тых, хто быў сведкамі збіцця дзяўчыны і яе сяброў і хто можа пацвердзіць гэта ў судзе, звязацца з імі.

**АП**

Падаём нумары рахункаў, на якія можна пералічыць сродкі для Маі:

Рахункі ў беларускіх рублях: Філіял № 510 ААТ «ААБ Беларусбанк» г. Мінск Асабовы рахунак № 000052, 9004-Р / Дабрачынны рахунак BYR (0510/0132) Абромчык Мая Генадзьеўна.

Валютныя рахункі: Філіял № 510 ААТ «ААБ Беларусбанк» г. Мінск Асабовы рахунак № 000373, 9000-Р / Дабрачынны рахунак USD (0510/0132) Абромчык Мая Генадзьеўна. Філіял № 510 ААТ «ААБ Беларусбанк» г. Мінск Асабовы рахунак № 000036, 9005-Р / Дабрачынны рахунак EUR (0510/0132) Абромчык Мая Генадзьеўна.




## Макей таемна наведаў Літву

Лукашэнкаўцы шукаюць заступніцтва ў Вільні, піша Lietuvos rytas. У Літву прыязджаў сам кіраўнік Адміністрацыі беларускага прэзідэнта Уладзімір Макей.

Пасланнік Лукашэнкі сустрэўся з дарадцам прэзідэнта Дарусам Сямашкам. На пытанне, аб чым ішла размова падчас сустрэчы і хто запрасіў Макея, прэс-сакратар Грыбаўскайце Лінас Бальсіс сказаў: «Сустрэча была адной з серыі дыпламатычных крокаў, якія зрабіла Літва як старшыня Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) з мэтай абароны правоў чалавека і свабоды слова ў Беларусі».

Макей стаць другім нумарам у спісе непажаданых асоб, складзеным краінамі ЕС, пасля Лукашэнкі.

**Сяргей Гезгала**

# Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн. Калумбія

Яны прыляцелі ў Нью-Ёрк у красавіку без цэнта ў кішэні. З сабой маюць спальнікі, лекі і табурэт, які прысягнулі паставіць на мысе Горн. А яшчэ гітару, скрыпку ды трубу, з дапамогай якіх зарабляюць па дарозе. За сем месяцаў яны прайшлі-праехалі аўтаспынам і пехадралам усе ЗША, Мексіку, цэнтральнаамерыканскія Гватэмалы і Гандурасы. «Наша Ніва» публікуе захапляльныя падарожныя дзённікі Аўгіні Манцэвіч. Трое беларусаў ладзяць аўтастоп праз абедзве Амерыкі. Гэта **Кірыла Краўцоў** — капітан каманды, фатограф, трубач. Гэта **Аўгіня Манцэвіч** — журналістка, скрыпачка, акрабатка і аўтарка гэтага дзённіка. Гэта **Верасень** — аператар, гітарыст.



Калумбійскі ўніверсітэт — кузня кадраў герыльерас.

**Працяг. Пачатак у №46, 47 за 2010, № 2—4 за 2011.**

## Багата

Я не ведаю, ні як завуць гэтых хлопцаў і дзяўчат, ні кім яны марацьстаць. Мы проста сядзім на зямлі перад Калумбійскім нацыянальным універсітэтам, схаваўшыся ад дажджу, і граем адно аднаму нашыя народныя песні. Мы з Вераснем — на скрыпцы і гітары. Яны — на калумбійскай флейце — гайце.

У горадзе на больш як сем мільёнаў чалавек, дзе жыхары задыхаюцца ад выхлапных газаў і надзяваюць на твар маскі, мы знайшлі куток поўнай свабоды і творчасці. На тэрыторыі Калумбійскага ўніверсітэта — усе факультэты ў адным месцы. Фізікі і архітэктары, лінгвісты і мастакі перасякаюцца тут кожны дзень...

На перапынках студэнты выходзяць на плошчу Чэ пакурыць траўку. Некаторыя затрымліваюцца там на некалькі гадзінаў. Амаль кожны студэнт тут — артыст. Хтосьці іграе на музычных інструментах і спявае, хтосьці жанглюе. Іншы ходзіць па канаце ці паказвае фаер-шоу.

Свабода тут адчуваецца і ў графіці, якімі размаляваныя ўсе сцены ўніверсітэта.

Дух рэвалюцыі лунае на тэрыторыі ўніверсітэта не толькі ў выглядзе партрэта Чэ Гевары на галоўнай плошчы кампуса. У калумбійскіх джунглях дагэтуль вядуць сваю дзейнасць партызаны, першыя з якіх калісьці выйшлі менавіта вось з такога ўніверсітэта.

Праўда, некаторыя кажуць, што сённяшнія партызаны мала супольнага маюць з ідэаламі, за якія змагаўся Чэ. Не хвалюе іх і лёс карэннага насельніцтва Амерыкі. Цяпер партызаны ў асноўным займаюцца рабункам і гандлем наркотыкамі. Многія графіці на сценах Багаты, відаць, намаляваныя пад уздзеяннем гэтых самых наркотыкаў.

Багата ўвогуле аказалася шалёным горадам, дзе пры сямі мільёнах насельніцтва нават няма метро. Замест яго тут ходзяць аўтобусы «Трансміленіа», для якіх на дарогах сталіцы Калумбіі выдзеленыя спецыяльныя палосы, дзе забаронена ездзіць іншаму транспарту.

З сарака трох мільёнаў жыхароў краіны сорак мільёнаў маюць мабільныя тэлефоны. Але, як ні дзіўна, самы папулярны дробны бізнэс тут — продаж хвілінаў на мабільных тэлефонах. Уласнік кожнага газетнага кіёска, кожны вулічны прадавец чыпсаў ці піражкоў (эмпанадас) не ўпускае магчымасці зарабіць і на сваім мабільным хоць нейкую капейку. Пазычаеш прывязаны да прылаўка мабільны, размаўляеш і затым плаціш 150—200 песа за хвіліну.

Яшчэ адна папулярная забава Багаты — дублёры святлафораў. Усе святлафоры ў горадзе працуюць спраўна. Аднак усё адно амаль на кожным перакрыжаванні стаіць па 4—8 чалавек у аранжавай форме, са свісткамі і знакамі: «стой», «ідзі», і актыўна дапамагае святлафорам у іх працы.

Гуляючы па горадзе, мы трапілі ў бясплатны музей «самага калумбійскага з усіх калумбійскіх мастакоў» Фернанда Батэра. Усіх людзей на сваіх карцінах Батэра малюе, скажам так, крыху тоўстымі. Прэзідэнта Калумбіі. Мону Лізу. І нават Ісуса Хрыста.

Сярод батэраўскай калекцыі Пікасо, Мунка і іншых мастакоў знайшлася і праца Марка Шагала. Мы нават расказалі зацікаўленым іншаземцам, якія разглядалі карціну, дзе знаходзіцца гэты дзіўны горад Віцебск, у якім нарадзіўся Шагал.

Багата знаходзіцца ў гарах на вышыні 2640 метраў. Хоць і блізка да экватара, тут холадна і амаль штодня ідуць дажджы.

## Пра здароўе

«Гэта можа быць што заўгодна», — шматзначна зазначыў доктар Хуліан Андрэс Санчэс і пасадзіў мяне, з апухлым тварам, мерацьціск.

Па медыцынскую дапамогу ў падарожжы мне давялося звяртацца ў другі раз. Упершыню — у Панаме, дзе нас з Вераснем праз вільготны клімат атакавалі грыбы. Тады па тэлефонах, пазначаных у страхоўцы, мы не дазваніліся. Жартаваць са здароўем не хацелася — на розных участках цела з'яўляліся і раслі ўсё новыя ружовыя плямы — і мы вырашылі заплаціць $15 за доктарскую кансультацыю і амаль $100 за мазь і таблеткі.

Другі раз у шпіталь звярнуліся ўжо ў Калумбіі. Чатыры дні мы правялі ў казачным месцы ў горных джунглях. Любаваліся пяціметровай папараццю, мыліся ў горнай рэчцы, захапляліся вадаспадамі, рознакаляровымі птушкамі, елі сакавітыя мандарыны літаральна з дрэва. Тут нібыта адначасова і вясна, і

**Аўгіня Манцэвіч**

нар. у Вілейцы ў 1985. Журналістка, блогерка, пісьменніца. Пераможца конкурсу маладых літаратараў імя Уладзіміра Караткевіча ў 2005. Аўтарка кнігі «Графіка». Жыве ў Мінску. Дачка рэдактара «Рэгіянальнай газеты» Аляксандра Манцэвіча. Сястра журналісткі і паэткі Насты Манцэвіч.

**Верасень**

Нар. у Гомелі ў 1985. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт, факультэт геалогіі. Захапляецца фатаграфіяй. Меў персанальную выставу ў Нью-Ёрку. Муж Аўгіні Манцэвіч.

**Кірыла Краўцоў**

Нар. у Гомелі ў 1979. Фатограф. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт транспарту, факультэт эканомікі. Дырэктар «Дызайнерскай студыі Кірылы Краўцова» ў Гомелі.

**Калумбія**

краіна на паўночным захадзе Паўднёвай Амерыкі. Атрымала незалежнасць у 1818—1830, дзякуючы Сімону Балівару. Названая ў гонар адкрывальніка Амерыкі Хрыстафора Калумба. Плошча 1 138 910 км². Насельніцтва 42,9 млн чалавек. ВУП на душу насельніцтва прыкладна як у Беларусі.

Ад 1949 у краіне не спыняецца партызанскі рух, які пачаўся з узброенага канфлікту між Ліберальнай і Кансерватыўнай партыямі. У 1960-я палітычныя сілы паразумеліся, але распачалася лявацкая партызанка. З распадам СССР партызаны страцілі фінансаванне. Цяпер яны збіраюць «даніну» з наркагандляроў на падкантрольных тэрыторыях і рабуюць. У краіне дзейнічае некалькі партызанскіх групаванняў, найбуйнейшым з'яўляецца FARC (Рэвалюцыйныя ўзброеныя сілы Калумбіі). Сёння яны маюць заплечча ў суседняй Венесуэле. У 2008 іспанская газета El Pais пісала, што Чавес арганізоўваў пастаўкі зброі для FARC з Беларусі праз Віктара Шэймана.

Гадавы прыбытак «найбагацейшай партызанскай арміі свету» каля $1 млрд.

Таксама ў краіне дзейнічае «парамілітарэс» — гвардыя наркакартэляў. Яна змагаецца і з партызанамі.

Ад 1960-х у Калумбіі захоўваецца вайсковая прысутнасць ЗША. З дапамогай амерыканскага спецназа ў 1993 быў ліквідаваны найбуйнейшы наркабарон у краіне Пабла Эскабар.

Прэзідэнтам Калумбіі ў 2010 быў абраны былы міністр абароны Хасэ Мануэль Сантас, які ў другім туры набраў 69,2% галасоў і перамог суперніка, мэра Багаты Антанаса Моцкуса з перавагай у 40% галасоў — рэкорд у гісторыі Калумбіі. Сантас працягвае палітыку папярэдніка Альвара Урыбе ў змаганні з партызанамі і наркагандлем.





лета, і восень. На адным дрэве цвітуць кветкі, на іншым ападаюць жоўтыя лісты.

Вось я і расплацілася за гэтую казку, вярнуўшыся да цывілізацыі ў горад Калі.

На абодвух каленях у мяне з'явіліся чырвоныя пухліны. Балелі і свярбелі. Я падумала, што ўкусіў звычайны камар, і без хваляваннняў легла спаць. Раніцай мяне ахапіла паніка. Усё цела было ўсыпанае чырвонымі плямамі, вока раздзьмулася так, што я ледзь магла яго расплюшчваць, а вусны сталі, як у Анджаліны Джолі, толькі вельмі непрыгожыя.

Жанчына, у якой мы спыніліся, дала мне нейкія таблеткі і запэўніла, што хутка пухліны і сверб мінуцца. Так і адбылося, толькі пухліны і пачырваненні пачалі з'яўляцца ў новых месцах. Так працягвалася тры дні. Кожны раз, гледзячыся ў люстэрка, я бачыла іншы твар. Але кожны раз аднолькава страхалюдны.

У гарадку Папаян вырашыла звярнуцца да доктара. У калумбійскім філіяле фірмы «Корыс» (асістанса «Белдзяржстраха») ніхто не размаўляў па-англійску. Адзіным вынікам вельмі доўгай і павольнай размовы па-іспанску было тое, што мне параілі пайсці ў шпіталь. Дзякуй. А то я не ведала.

У шпіталі доктар, агледзеўшы мяне, сказаў, што гэта алергія, але на што — невядома. У Калумбіі — 10% сусветных эндэмікаў (раслінаў ці жывёлаў, якія існуюць толькі ў адной мясцовасці і больш нідзе ў свеце). Да таго ж, у вільготным экватарыяльным клімаце алергію можна атрымаць нават ад рысу, калі есці яго кожны дзень. Што мы, дарэчы, з паспяховасцю і рабілі. Незвычайную рэакцыю на прадукты харчавання, расліны ці ўкусы насякомых тут можа атрымаць нават той, хто ніколі не меў алергіі.

Доктар Хуліян Андрэс сказаў, што таблеткі, якія дала мне жанчына ў Калі, — ад насмарку, і выпісаў новыя. Даў свой нумар тэлефона, мэйл і папрасіў пісаць яму, калі спатрэбіцца медыцынская парада або нават калі мне стане лепш. А таксама сказаў, што за кансультацыю я магу не плаціць.

Таблеткі хоць і аказаліся вельмі таннымі, але хутка дапамаглі.

### У гасцях у магнатаў

У горадзе Калі мы ўпісваліся ў сям'і арыстакратаў — нашчадкаў іспанскіх каланізатараў. Дом з гасцёўняй, сталовай, барам, кучай пакояў і прыбіральняў, а таксама каморкай для пакаёвак. Інакш як рабынямі мы з Верасенем іх назваць не маглі.

Сёння ў сям'і круглыя суткі жыве ўсяго адна рабыня, астатнія прыходзяць удзень.

У абавязкі рабыні ўваходзіць усё, што ў нас робіць кожны нармальны чалавек — яна гатуе, прыбірае, мые бялізну. За сталом ягамосці самі не бяруць сурвэткі, нават калі яны ляжаць за два метры ад стала. Іх павінна падаць рабыня, нават калі яна ўжо ад старасці слаба ходзіць, дрэнна бачыць і ў яе трасуцца рукі. За такую працу рабыня атрымлівае $200 у месяц.

Перыядычна ягамосці рабілі нам заўвагі, што ногі пад попу за сталом падкладаць нельга, што босымі ў хаце ў Калумбіі ходзіць толькі бедната (не роўня ім), а таксама, што душ у іх належыць прымаць кожную раніцу (нават калі ўвесь мыўся перад сном)...

### Да мяжы з Эквадорам

Аўтаспын у Калумбіі аказаўся самым горшым з краінаў Лацінскай Амерыкі. Грузавікі не спыняюцца, дый месца ў іх амаль няма. Усе яны — без кабінаў з ложкамі. Дальнабойшчыкі не ездзяць па Калумбіі ноччу — банды злачынцаў нападаюць на тракі і абкрадаюць. Таму і ложак у грузавіку мець няма сэнсу.

І вось з-за павароту выязджае маленькі грузавічок з адным вольным месцам у кабіне ля кіроўцы. У закрытым кузаве аднаго з такіх мы ўжо ездзілі па горных дарогах Панамы. У цемры нас хістала з боку ў бок, мы не бачылі, куды машына павернe. Ад гэтага мне рабілася дрэнна. Паўтараць падобны трып не хацелася. Але што наваражылі, тое наваражылі.

Уселіся ўдваіх на пасажырскае месца ў кабіне. Тады мы яшчэ не ведалі, што вязём за спінаю свой прытулак на бліжэйшую ноч.



Вы калі-небудзь думалі, што на экватары холадна і выпадае снег?



Калумбійскі эдэм — горныя джунглі.




Эквадор парадаваў вялікай колькасцю індзейцаў у нацыянальных строях.



Вуліцы Кіта.

Прыехалі ў Паста ўжо цемначы.

Наш вадзіцель, Амар, сказаў, што ў яго пераначаваць нельга, але мы можам раскласці свае дыванкі ў кузаве грузавіка. Такі варыянт нас задаволіў. Але мы тагосяго не ўлічылі. Горад Паста — у гарах. Тэмпература ўначы тут апускаецца да васьмі градусаў. А сцены кузава аказаліся ўсяго толькі нацягнутымі на жалезны каркас рэкламнымі плакатамі.

Апрануўшы ўвесь камплект нашага адзення: двое шкарпэтак, майку, тэрмабялізну, штаны, кофту, шалік ды шапку і ўхутаўшыся ў лёгенькія спальнікі, леглі спаць.

Усё яшчэ жывыя, хоць і крыху падмерзлыя, раніцай рушылі ў шлях.

### Экватар

А пасля мы ўпершыню ў жыцці перасеклі экватар. І цяпер афіцыйна знаходзімся ў паўднёвым паўшар'і, афіцыйна ходзім уверх нагамі і ў нас тут афіцыйна вясна.

Эквадор развейвае стэрэатыпы. Вы калі-небудзь думалі, што на экватары холадна і выпадае снег? Гэта я пра вяршыню вулкана Пічынча — 4790 метраў вышынёю. Дарэчы, першую горную вяршыню ў маім жыцці. Там, наверсе, захоплівае дух не толькі ад браку кіслароду, але і ад віду хмараў пад нагамі, спячага кратара вулкана, горных птушак, якія ядуць пячэнне з рукі.

Дарэчы, снег на экватары не толькі на вяршынях гораў. Мы прыехалі ў сталіцу Эквадора Кіта, калі там тэмпература пасля абеду не падымалася вышэй за 15 градусаў.

Сачы за падарожжам ужывую на users.livejournal.com/litota_ і euroradio.by.

**Працяг будзе.**

# У Гродне зніклі хлопец і дзяўчына

**11 студзеня Дзяніс Сотнікаў і Ганна Цвятніцкая пайшлі на шпацыр у Румлёўскі парк, што на ўскраіне Гродна. Адтуль яны ўжо не вярнуліся.**

Маладыя людзі пазнаёміліся праз інтэрнэт, і гэта была фактычна іх першая сустрэча. Дагэтуль 22-гадовы Дзяніс і 15-гадовая Ганна перапісваліся выключна праз адну з сацыяльных сетак. Яны не мелі намеру скончыць жыццё самагубствам альбо разам з'ехаць з горада. Такую выснову зрабілі супрацоўнікі гродзенскай міліцыі, калі ўзламалі асабістыя старонкі і электронныя паштовыя скрыні маладых людзей.

У гродзенскай міліцыі гавораць, што самая праўдападобная версія — няшчасны выпадак. Рыбакі, якія ў той вечар лавілі рыбу ў раёне Румлёўскага парку, чулі нейкія крыкі на Нёмане і выклікалі ратавальнікаў, аднак, калі тыя прыбылі на месца, нікога не знайшлі. Магчыма, маладзёны вырашылі прайсціся па лядоваму покрыву і трапілі ў палонку.



Родныя Дзяніса і Ганны не губляюць надзеі знайсці іх жывымі – расклейваюць улёткі па горадзе і шукаюць тых, хто вечарам 11 студзеня таксама быў у Румлёўскім парку. Хаця шанцаў знайсці сведкаў мала – парк знаходзіцца на паўднёвай ускраіне Гродна, ён больш падобны на вузкую паласу лесу, і зімой туды мала хто наведваецца.

Газета «Вячэрні Гродна» звяртае ўвагу на тое, што гэта не першы, а, бадай, сёмы выпадак знікнення людзей у гэтым раёне. «Чаму РАУС маўчыць? Можа быць, у раёне гэтых вуліц сапраўды небяспечна хадзіць? Хай патрулююць гэтыя тэрыторыі, але вырашаюць праблему. І паведамляюць насельніцтву, што адбываецца», — піша выданне.

**АП**

# У расійскай Вікіпедыі назва «Белоруссия» зменена на «Беларусь»

30 студзеня ў расійскай Вікіпедыі (сусветная інтэрнэт-энцыклапедыя, у якую можа пісаць кожны) афіцыйна была зменена назва нашай краіны. З варыянта «Белоруссия» на «Беларусь».

На тэму, як жа правільна называць краіну, было нямала спрэчак. Прыхільнікі «Белоруссии» абапіраліся на традацыі расійскай мовы, а адэпты «Беларусі» схіляліся да таго, што былая назва ўжо неактуальная, а ў Канстытуцыі РБ парасійску напісана «Республика Беларусь».

У гэтую палеміку быў уцягнуты нават прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў, які выказаўся за назву «Беларусь».

Цяпер аўтары Вікіпедыі спадзяюцца, што спрэчак на гэтую тэму стане заўважна меней.

**Зміцер Панкавец**

# Быць ці не быць плэй-оф — вось дзе пытанне

**30 студзеня ХК «Дынама-Мінск» саступіла на «Мінск-Арэне» па булітах ЦСКА з лікам 2:3, чым значна ўскладніла мары на плэй-оф.**




Матч прайшоў пры аншлагу — быў абноўлены рэкорд не толькі «Мінск-Арэны», але і наогул матчаў КХЛ.

У нядзелю гульню наведалі 15 576 гледачоў, што на 46 чалавек болей, чым 21 верасня, калі «Дынама» дужалася з «Ак Барсам». Тады «зубры» выйгралі 5:4, а вось у нядзелю саступілі. Крыўдна, але вынік справядлівы. Узроставая беларуская каманда прайграла маскоўскай моладзі.

Пасля 51 гульні ў «Дынама» — 68 пунктаў і пакуль 8-е месца ў Заходняй канферэнцыі. «Тарпеда» (Ніжні Ноўгарад) выйграла ў аўторак у «Аўтамабіліста», гэта азначае, што яно абышло мінчукоў. Апроч таго, валжане маюць гульню ў запасе. А ў верасні дынамаўцы нават былі лідарамі Захаду!

«Дынама» засталося правесці тры матчы — прычым усе дома.

16 лютага супраць «Трактара», 18-га — з «Салават Юлаевым», 20-га — з магнітагорскім «Металургам». Каб трапіць у плэй-оф, «Дынама» трэба выйграваць ва ўсіх трох гульнях у асноўны час і маліцца, каб «Тарпеда» мінімум двойчы аступілася.

Зрэшты, летась «Дынама» страціла нават тэарэтычныя шанцы на плэй-оф за пяць тураў да фінішу. Хоць які, але прагрэс.

**АГ**



# Лукашэнка выбірае прафесію кінаакцёра

**Унучка Аляксандра Лукашэнкі Віка знялася ў расійскім серыяле «Гаданне пры свечках».**

Гэта рамантычная гісторыя правінцыйнай Папялушкі з экстрасэнсорнымі здольнасцямі, якая прыехала скараць Маскву, а знайшла сваё каханне. Сучасную меладраму з элементамі містыкі здымалі па аднайменным рамане Ганны Берсневай.

Як паведаміў рэжысёр Вадзім Дзербянёў, здымкі серыяла праходзілі ў беларускай сталіцы ў 2009—2010. «Мінск не так нашпігаваны рэкламай, як Масква, і з адміністрацыйнага пункта гледжання значна лягчэйшы».

У серыяле зняліся Таццяна Казючыц, Антон Феакцістаў, Анатоль Лабоцкі, Ганна Бальшова, а таксама беларусы Уладзімір Гасцюхін і Святлана Кажамякіна. А 12-гадовай Віцы Лукашэнка дасталася роля галоўнай гераіні, медсястры Марыны Сценіч, у дзяцінстве. На здымкі Віка прыязджала з аховай, аднак больш нічым свой зорны статус не падкрэслівала, не капрызіла. Прэм'ера «Гадання пры свечках» адбылася на тэлеканале «Расія» 31 студзеня. Серыял будзе ісці па будніх.

У 2008 годзе Віка Лукашэнка знялася ў беларускай камедыі «На спіне ў чорнага ката». Для здымкаў быў запрошаны расійскі поп-спявак Філіп Кіркораў, акцёры Міхаіл Жыгалаў, Валерый Прохараў.

**Кастусь Матушыч**

# Змененыя ўмовы паступлення ў гімназіі

**паведамілі ва ўпраўленні агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі.**

У 2011 годзе прыём у гімназіі будзе праводзіцца на конкурснай аснове — па выніках уступных іспытаў па трох вучэбных прадметах: матэматыцы, рускай і беларускай мовах. Залічэнне пройдзе па выніках адзнак, атрыманых на ўступных іспытах, і гадавых адзнак за 4-ты клас па прадметах, па якіх праводзіліся ўступныя іспыты. Такім чынам, цяпер абітурыент максімальна зможа набраць 60 балаў.

Раней залічэнне ў гімназіі праводзілася толькі па трох адзнаках, атрыманых на ўступных іспытах.

Акрамя таго, заданне для ўступных іспытаў цяпер будзе рыхтаваць Мінадукацыі. Раней заданні рыхтаваліся спецыялістамі ўпраўленняў адукацыі аблвыканкамаў і камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама. Плануецца, што зборнікі заданняў будуць складзены да сакавіка 2011 года.

Чакаецца, што кантрольныя лічбы прыёму ў гімназіі будуць зацверджаны на пасяджэннях выканкамаў да 10 красавіка. Прыём у гімназіі сёлета пройдзе з 1 па 10 чэрвеня.

**БелаПАН**

## Здарэнні

• **Узброены напад на букмекерскую кантору ў Брэсце.** Міліцыя шукае злачынца, які ўчыніў у Брэсце разбойны напад на касіра букмекерскай канторы. Касір расказала, што 29 студзеня ўвечары, калі яна замыкала дзверы, невядомы, пагражаючы нажом, забраў у яе ключы ад касы і мабільны тэлефон. Налётчык замкнуў касіра ў падсобцы і выграб з сейфа 6 млн 244 тыс. 360 рублёў.

• **Махляр падмануў 13 аўтааматараў на 613 млн рублёў.** 36-гадовы мінчанін з братам чатыры гады прыганялі патрыманыя аўтамашыны з Еўропы. Аўтабізнесмен не грэбаваў і махлярствам. Браты бралі авансавы плацеж ці перадаплату, а выкананне абавязальніцтваў увесь час адкладвалася.

• **Затрыманы вандал з Баранавіч.** У Баранавічах затрыманы 21-гадовы мясцовы жыхар, які выкраў з помнікаў на магілах на могілках «Русіна» латунныя лампадкі. Дзве з іх — з помнікаў ваенных лётчыкаў Аляксандра Марфіцкага і Аляксандра Жураўлевіча, якія загінулі 30 жніўня 2009 года на авіяшоу ў польскім Радаме. Выкрадзеныя лампадкі знайшлі ў баранавіцкага скупшчыка лому каляровых металаў, якому малады чалавек збыў выкрадзенае. Злодзей не працуе, раней быў судзімы за крадзеж.

• **Слесар прадаваў марыхуану.** У Мінску быў затрыманы 52-гадовы раней судзімы слесар аднаго з заводаў. Падчасператрусу ў сутарэннях дома па Партызанскім праспекце аператыўнікі знайшлі 250 г марыхуаны, якая належала затрыманаму.

• **Спецыялізаваўся на крадзяжы пасля сумеснага распіцця.** Затрыманы 35-гадовы жыхар сталіцы, які падазраецца ў крадзяжы газавага балона з двара прыватнага дома ў Мінску. Аператыўнікі высветлілі, што затрыманы мае дачыненне не толькі да гэтага крадзяжу. Так, пасля сумеснага распіцця спіртных напояў зламыснік скарыстаўся алкагольным ап'яненнем гаспадара кватэры на вуліцы Усходняй і скраў ягоны ноўтбук.

• **У Маскве ДАІшнікі застрэлілі кіроўцу джыпа, які тараніў машыны.** Кіроўца джыпа пратараніў некалькі машын і паспрабаваў уцячы. Пачаўся пераслед. Калі джып удалося заблакаваць, сяржант міліцыі выцягнуў кіроўцу, які замкнуўся ў салоне, з машыны. Падчас затрымання кіроўца нібыта схапіўся за яго аўтамат. Міліцыянту «давялося» адкрыць агонь. Кіроўца загінуў. Паводле папярэдніх звестак, мужчына быў п'яны.

**СМ**




# Генная інжынерыя

**Павал Касцюкевіч.**
Апавяданне.

### Ціханаўна

7х7=77. 3+8=38. 5099 акругляем да 6 тысяч. Дзень добры! Салацік «Нясвіжскі» і боршчык «Сібірскі» па другім разе палічыла — нешта рука цыкліцца стала: відаць, перамена надвор'я. Ага, хлеб толькі адзін, больш браць не будзеце, адназначна? Тады 10 хлябоў, то бок 1+0. Акругляем тысячай, каб усе лічбы зусім аднолькавыя былі, — 17 тысяч 777. Разлічвалі на 5? Што паробіш — порцыі растуць. Чэк хочаце паглядзець? Гляньце: боршчык «пяльменскі», салацік «нясвежы», адзін плюс адзін раз... Так, на гэты пункт чэка не глядзіце, гэта ён не вам. І гэта таксама — з іншага чэка адціснулася само. Чай тры разы прабіла? Ну, ведаеце, пасля рэзання цыбулі ў вачах крыху траіцца, і гэта яшчэ па-людску — вось у канцы месяца ад перапрацоўкі бывае ў мазгах пецярыцца. А ў астатнім усё правільна. Бачыце, Ціханаўна ніколі не памыляецца ў нехарошы бок. Так што даставайце заначку: я не рэнтгенолаг, але бачу — ёсць. Вунь дзе, за фатаграфіямі дзяцей. Якія яны ў вас ужо дарослыя — глядзяць так і ўсё разумеюць, што маму выручаць трэба. Ад Ціханаўны грошы ў кашальку не ўтоіш. Спасіба, агульначалавечы вам спасіба...

А ты, Цукерачка, слухай бацьку, то бок Ціханаўну. Усё проста — сядзіш, нікога не чапаеш і за харчовыя паслугі бярэш грошы. Людзей хоць і многа ў сталоўку прыходзе, але памятай: чэк — адзін. Як жыццё. Вось мне ўнукаў падымаць трэба, і на «фальксваген» зяціку. Таму перад зменай рабі, Цукерачка, сабе ўстаноўку на добрае — думай пра доўгі і шчаслівы чэк. Маладая ты яшчэ, але навучышся...

Добры дзень! Салацік, булачка... Што гэта ў вас у баршчы — дзве смятаны? Не? Ну, неяк мне падалося, смятанная плямка неяк так небюджэтна падваяецца — Леапольдаўна з лыжкай пагарачылася. Трэба якую піпетку. А што гэта пад пюрэ — эскалоп схаваўся? Ды канешне, з кім не бывае! Неслі, рукі трэсліся, вось эскалоп пюрэшкай і заваліла. З вас дзевятнаццаць дзевяноста...

У дзевяностыя, Цукерачка, людзі былі...

### Клятыя дзевяностыя

... абазлёныя: грошы на абед давалі без рэшты — дома самі рэжуць салаты і лепяць катлеты з каніны. Касіру не разгуляцца. І калі касір, скажам, прыязджае ў вёску, дык і на сваіх бацькоў накрычаць можа, а тыя ўжо на калгаснай скаціне спаганяюцца. Ад гэтага куры мяса давалі абазлёнае, а таму ежа ў сталоўках рабілася несмачнейшай і несмачнейшай. І вопытныя людзі казалі, што Чарнобыль не ў восемдзесят шостым, а значна пазней — у дзевяностыя ляснуў. Проста людзям манілі некалькі гадоў, каб самыя слабыя з нас не вытрымалі і хуценька паўміралі. І тады можна было ўсё спісваць на васьмідзясятыя і СССР. Адным словам, адчай такі, разруха. І ўсё неяк, Цукерачка, крыва выходзіла: захочаш малака папіць, падыдзеш да халадзільніка, дастанеш пірамідку з малаком — і абавязкова пакетам да крыві распаласуешся, потым грудзі абальеш. У дадатак на падлогу трапіць: паслізнешся і — лабацінай аб рог стала. Сядзіш у ружовай лужыне крыві з малаком, плачаш. І так усе дзесяць гадоў. Працоўныя суботы піянінамі «Беларусь» валяцца на галаву. Авіялайнеры «Белавія» ў нябёсах не вытрымліваюць: садзіцца сабе самалёт на ўзлётную паласу, механікі падышлі: бач — а ён ужо ўсмятку і крылаў няма.

У гэтай рэспубліцы хочацца жыць і абедаць...

Вуглы ў дамоў — абкусаныя былі, бо людзі, ідучы на працу ці яшчэ куды, ад голаду зубы ў сцены ўванзалі, а метро хадзіла без прыпынкаў. Не верыш, Цукерачка? Правільна, апошняе — чыстая выдумка, а першае — непрыемная, але праўда.

Цяпер, у 00-ыя, дзякуй Богу, людзі разумеюць, што робяць. Слухай, Цукерачка, і запамінай! У нашай сталоўцы кожны кліент павінны выбраць, як яму зручней расплачвацца з Ціханаўнай, бо існуюць чатыры...

### І заўтра будзе тваім

...тарыфныя планы.

Першы тарыф. Тарыф «Чэсны»: цябе аблічваюць — і на шмат, але не кожны дзень. Справядліва ператрахіваюць праз дзень, аднак раз на некалькі дзён пакідаюць цешыцца жытцы... Ты ж — кроў з малаком: ачуняеш, а нямоглым і Ціханаўне трэба пажытак. Дэвіз тарыфу — «І заўтра будзе тваім», бо як жа прыемна прачынацца ў дзень, калі на касе цябе аблічваць не будуць! Чуеш, як жыццё спраўнее: галубы на падваконні буркочуць, і ты з пасцелькі наводзіш руку як бы на іх — і гладзіш, гладзіш па галовачцы... І стул у цябе харошы, і думкі светлыя. У гэтай рэспубліцы хочацца жыць і абедаць... Але ёсць, Цукерачка, такія камедыянты, якія, перайшоўшы на тарыф «Чэсны», завітваюць да Ціханаўны толькі ў тыя дні, калі іх лічаць па-добраму. Маўляў, «учора, ведаеце, разгуляўся апендыцыт, Нямігу замяло пяском, немаглося, ногі не трымалі...» Хярня гэта ўсё, Цукерачка, — есці хочацца кожны Божы дзень! Такіх кловунаў аўтаматычна пераводзіш на тарыф «Незалежны»: моцныя гэтага свету, у сэнсе я і Леапольдаўна (а тая і Францаўну пакліча), пачынаем кліента і ў хвост і ў грыву без усякіх абмежаванняў штодня. Ніякіх: «Але дазвольце!»— і: «Вы ж няправільна палічылі!» — як заікнецца — у зямлю аўтарытэтам закапаць і дыпламатычным шляхам усе грошы гвалтам забраць. Не падабаецца? — марш у рэстараны і піцэрыі — месца ж у нас, Цукерачка, стратэгічнахлебнае: адна народная сталоўка на ўвесь цэнтр. А ўсё, што застаецца гэтаму архараўцу, — пазіраваць у позе маленькай, але вельмі незалежнай краіны. Тарыф трэці — «Родны»: цябе ашукваюць на нейкую дробязь, адно кожны дзень. Па-роднаму, панаску. І крыўдаваць тут няма чаго: штодня нашыя грошы ты аддаеш нашым жа людзям. Але зноў з'яўляюцца хітруны, якія соваюць Ціханаўне грошы без рэшты. Маўляў, «мне жонка якраз сем чатыраста ў кішэню паклала, і, бачыце, як усё спраўненька супала: катлетка, супчык і кампот». Такіх альфонсаў пераводзіш на тарыф «Вольны». Дэвіз тарыфу: «Хто што хаціць, той тое і тварыт». Хочаш плаціць роўна — ды калі ласка. Не жадаеш нашу краіну спансіраваць у асобе яе найлепшых прадстаўнікоў — не трэба. Воля ж — такая рэч: нешта з самай сярэдзіны падмывае цябе зрабіць гэтак, а не інакш. Але ж, перайшоўшы на гэты тарыф, не забывайся, што мы робімся такія самыя — вольныя! Вольныя мышы вылазяць з нораў сваіх, свабодныя прусакі выбрыдаюць з гнёздаў сваіх, і ўсе яны па добрай волі і пры поўнай памяці патрапляюць у твой кампот. Пераскокнуўшы на «Вольны», не здзіўляйся катлетцы з булыжнікам — гэта самохаць камяні вылазяць з падзем'яў сваіх.

Як па-людску, Цукерачка, дык як ні круці, а Ціханаўне прыплаці. З Ціханаўнай жа заўсёды можна дамовіцца. У нас жа як: ёсць чалавек — няма праблемы. Хоць, шкада, і незаменных па-ранейшаму няма — вось мяне перад пенсіяй табою замянілі. Што паробіш — у іх там таксама ратацыя: быў Цанава — стаў Берман, быў НКВД — зрабіўся МГБ. Майго бацьку...

### Каханне падчас НКВД

...Коцікава Ціхана Лаўрэнцьевіча, 1913 г. нараджэння, не расстралялі (перадумалі), а пасадзілі надоўга. Усё за тое, што ў мінскім падполлі няправільна вёў барацьбу з немцамі. Забралі яшчэ ў акупацыю: у партызанскі лес прыляцеў самалёт і разам з дзедам Талашом адымчаў тату на Вялікую Зямлю. Дзеду — ордэн, а тату — ордар. Там спярша тату давялі, як правільна змагацца трэба было, — дужа моцна білі, кажа, потым адправілі проці ліха на ўзгорак у Сібір комлі валіць. Першая жонка і сын адмовіліся ад яго, бо такімі тады, Цукерачка, былі каханне і любоў. Як ён з лагера вызваляўся — як цяпер уваччу стаіць. Я яшчэ зусім малая была — мне тады мінус пяць годзікаў было, і з маёй мамаю ён яшчэ пазнаёміцца не паспеў. Але я ўсё памятаю ясненька. Май. Красны Бераг. І вось мой тата пасля трынаццацігадовага лагера вяртаецца дадому. Крысо яго крэмавага плашча развяваецца, не раўнуючы, як крылы пасівелага крумкача. Куплёнка, яго новы шэры капялюх, — як у амерыканскіх фільмах. У руцэ такі ж навюткі, з голай фанеры чамаданец. Ветрык у твар, і тата хоча яму нешта рэкнуць, адкрывае рот — ды я бачу: зубоў у таты няма, павывальваліся ад турэмнае цынгі. Боты таты — квадратныя і здаравезныя, як цяпер у бронзавага Коласа, спрактыкавана пляжаць зямлю. Праз краснабярэжскі праспект тата шыбуе вуліцай Чыгуначнай, а пылішчы — Божа, злітуйся: лезе ў нос, садзіцца на плашч, робіць з крэму каву з малаком. Вось ён, тата мой, шэствуе: ужо беспартыйны, безсямейны, без ніхера, запылены, здаровы і моцны, як ніколі, і магутным голасам трубіць па-над дамамі вуліцы: «Суч'ё, гадаўё, яйцакруты! Так за трынаццаць гадоў асфальту і не паклалі!»

І гэтак Ціханаўна казала і казала, а маладая стажорка слухала. Прытуліўшыся спінаю да пафарбаванай у невылечна зялёны колер сценкі, знерухомелая Цукерачка лавіла і назапашвала ў сваіх галаўных рэзервуарах кожнае слова строгай настаўніцы. Чопы з гарнірамі — капуста і рыс — таксама як застылі, стварыўшы нейкае падабенства чалавечага шыхта. Нам няма на каго абаперціся, толькі на нашых дзядоў, якія на небе. І яны глядзяць на нас, бачаць нас, усё пра нас ведаюць — кожнае малое зрушэнне валаска, пасміхаюцца.



## КАНЦЭРТЫ

### Рэальнае каханне

**13 лютага ў «Рэактары» (вул. Харужай, 29б) а 19-й** — канцэрт гурта J:Морс з праграмай «Рэальнае каханне».

### Neuro Dubel

**3 лютага ў клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт гурта Neuro Dubel. **Пачатак а 19-й.**

### Apple Tea

**2 лютага ў «Графіці»** — джаз. Зайграе Apple Tea.

### Заўсёды прыўкрасныя мелодыі Францыі

**2 лютага ў 19.30 у Камернай зале імя Ларысы Александроўскай Тэатра оперы і балета** — канцэрт «Заўсёды прыўкрасныя мелодыі Францыі». Прагучаць творы Гуно і Меербэра, Бізэ і Сэн-Санса, Дэліба і Дэбюсі, Равэля і Маснэ…

## ІМПРЭЗЫ



### Вечар памяці Чэслава Немэна

**14 (і, магчыма, 15) лютага ў Палацы мастацтва (вул.Казлова, 3)** — вечар памяці Чэслава Немэна, нашага земляка, які стаў адным з самых вядомых музыкаў Еўропы. **Пачатак а 18-й.**

### Конкурс акравершаў

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча (вул.Багдановіча, 7а)** працягвае конкурс акравершаў «Зорка Венера ўзышла над зямлёю...», прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння Ганны Какуевай (няшчаснага кахання Максіма Багдановіча). На конкурс прымаюцца літаратурныя творы, напісаныя ў тэхніцы акраверша і дасланыя на адрас музея да 8 лютага 2011 года. bagdanovich@tut.by, maksimbagdanovich@rambler.ru.

## ВЫСТАВЫ

### Каханне ды інш.

**У Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава твораў Андрэя Скіцёва «Каханне ды інш.». Чалавек, чалавечыя пачуцці — гэта тое, што найперш хвалюе аўтара ў навакольным свеце.

### Павел Валынцэвіч. Фоталетапіс даўжынёю ў паўстагоддзя

**У Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12) да 3 лютага** працуе выстава фотаздымкаў першай паловы XX стагоддзя, аўтар якіх — праваслаўны святар Павел Валынцэвіч. Асноўную частку экспазіцыі складаюць фотаздымкі, выкананыя з аўтэнтычных негатываў аўтара, акрамя гэтага, вашай увазе прапануюцца лічбавыя копіі аўтарскіх фотаздымкаў з сямейнага архіва і прыватных калекцыяў. Самы стары негатыў датуецца 1900 годам, апошні — 1949—1953-м.

### ПраСвет

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47) да 12 лютага** працуе выстава жывапісу Рыгора Іванова «ПраСвет».

### Цацкі з валізы. Дзецям 1960—1980-х прысвячаецца…

**У Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (пр.Незалежнасці, 25а) да 15 сакавіка** працуе выстава «Цацкі з валізы», прысвечаная дзецям 1960—1980 гадоў. Мінчукам і жыхарам іншых гарадоў прапанавана пашукаць у сябе дома ўлюбёныя цацкі — старых лялек, жаўнерыкаў, калейдаскопы, ваўчкі, чыгункі і іншыя скарбы свайго дзяцінства.

### Мастацтва Узбекістана

**У Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20) да 24 лютага** працуе выстава «Мастацтва Узбекістана».

### У гонар Мулявіна

**У Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав. Музычны, 5) да 12 лютага** працуе выстава, прысвечаная Уладзіміру Мулявіну.

## ТЭАТРЫ

**2 лютага**

**Оперы і балета** — «Эсмеральда»
**Горкага** — «Бег»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

**3 лютага**

**Оперы і балета** — «Баль-маскарад»
**Купалаўскі** — «Translations»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»
**Горкага** — «Праўда — добра, а шчасце лепш»

**4 лютага**

**Горкага** — «Ідэальны муж»
**Купалаўскі** — «Вечар»
**Юнага гледача** — «Апошняя дуэль»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»

**5 лютага**

**Горкага** — «Царэўна-жабка»
**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Горкага** — «Ніначка»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Купалаўскі** — «Зіма»

**6 лютага**

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Лялек** — «Васіліса Прыўкрасная»
**Оперы і балета** — «Чыпаліна»
**Горкага** — «Пакінутая жанчына (Мачаха)»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

**7 лютага**

**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

**8 лютага**

**Беларускай драматургіі** — «Інфляцыя пачуццяў»
**Оперы і балета** — «Папялушка»
**Горкага** — «Пане Каханку»

**9 лютага**

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Купалаўскі** (Малая сцэна) — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»
**Беларускай драматургіі** — «Хто пакахае мадам»
**Горкага** — «Рускія вадэвілі»
**Оперы і балета** — «Багема»

**10 лютага**

**Горкага** — «Перад заходам сонца»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Купалаўскі** — «Хам»

**11 лютага**

**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Оперы і балета** — «Дзікае паляванне караля Стаха»
**Горкага** — «Уяўны хворы»

**12 лютага**

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Оперы і балета** — «Іаланта»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»
**Горкага** — «Распуснік»

**13 лютага**

**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Тры парсючкі»
**Горкага** — «Эдып»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Горкага** — «Свабодны шлюб»



## КІНО

### Адна віягра на дваіх

**Каханне і іншыя лекі** (Love and Other Drugs)
ЗША, 2010, каляровы, 112 хв.
**Рэжысёр:** Эдвард Цвік
**Жанр:** Камедыйная меладрама
**Адзнака:** 3 (з 10)




З прычыны сваіх амурных прыгодаў Джэймі не можа доўга затрымацца на адной працы. Але, калі хлопец робіцца распаўсюднікам лекаў, то знаёміцца з німфаманкаю Мэгі, якая шалее ад пігулак. Героі знайшлі адно аднаго…

Стужка Эдварда Цвіка — свайго роду рэклама «Віягры», упрыгожаная Джэйкам Гіленгаалам і Эн Гатаўэй. Канфлікты, дыялогі і сітуацыі надуманыя — затое ёсць нагода паказаць агаленых маладзёнаў.

Дзіўны меладрамны трохкутнік: герой, гераіня і пігулка.

Камедыя, адным словам.

**Андрэй Расінскі**

## НАВІНКА «КНІГАРНІ «НАША НІВА»




# «Шалом»

**Выдатны мастак Артур Клінаў прэзентуе свой новы раман, які абяцае стаць падзеяй.**

«Шалом». Гэтак называецца твор.

Гэта не вітанне. Хоць і вітанне таксама.

Гэта сталёвы прадмет. Гэта кайзераўская каска на галаве.

Раман апісвае фантасмагарычныя прыгоды беларускага мастака між Берлінам і Магілёвам. Між Кройцбергам і Домам саветаў.

Гэта Клінаў. Гэта клімат. Асаблівы клімат. Які ж сюжэт? Мастак набыў антыкварную кайзераўскую каску, уздзеў яе на голаў і катэгарычна адмаўляецца здымаць абнову. Так у ёй і вандруе цераз межы-мытні, нападпітку і не. Нехта палічыць шалом метафарай жадання схавацца ад свету, схавацца ў гарэлцы.

Артур Клінаў — аўтар саламяных жахаў «Масакры» і «Чаепіція Лукашэнкі».

Ён таксама галоўны рэдактар няўлоўнага часопіса pARTisan, аўтар фотаальбома «Горад Сонца» і рамана «Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца».

Дарэчы, «Малая падарожная...» стала першай за доўгія гады беларускай кнігай, што выйшла ў нямецкім перакладзе на камерцыйнай аснове. Праўда, не стала вялікім камерцыйным поспехам. Можа быць, «Шалом» праб'е Еўропу?

Пра гэта можна будзе меркаваць па рэакцыі беларускага чытача.

Ён пабачыць кнігу сёння.

Кніга выйшла ў выдавецкай серыі «Кнігарня «Наша Ніва».

Клінаў стварае пад «Шалом» цэлую мастацкую рэальнасць. У яе аснове ідэя, што прускі шалом на галаве можа змяніць ход думак чалавека і дапамагчы яму дакладна вызначыць, як жыць далей. На спецыяльна створаным сайце аўтар падае не толькі анонсы прамацыйнай кампаніі «Шалом у кожны дом!», але і навіны накшталт «Пуціна бачылі ў тайнай ложы Вялікага тэатра ў прускім шаломе».

Артур Клінаў, майстар перформансу, абяцае, што прамоцыя новага беларускага рамана тасама будзе мець выгляд вясёлага перформансу.

**Мікола Бугай**

# «Антылось» і іншыя вынаходкі, запатэнтаваныя беларусамі за 2010 год

За мінулы год у краіне выдадзена 1322 патэнты на вынаходніцтвы. Пра гэта «НН» паведамілі ў Нацыянальным цэнтры інтэлектуальнай уласнасці.

Большасць вынаходніцтваў, прапанаваных рацыяналізатарамі і навукоўцамі, — вузкапрофільныя. Неспецыяліст і не скеміць адразу, навошта, напрыклад, можа спатрэбіцца «прылада для ачысткі плазмы дугавога выпаральніка ад незараджаных макрачасціц» альбо «спосаб мадэлявання траўматычнага неўрыту ніжнеальвеалярнага нерва ў труса ў эксперыменце».

Але сярод патэнтаў трапляюцца і, што называецца, агульнаўжывальныя. «НН» робіць міні-экскурсію па самых запамінальных айчынных вынаходніцтвах за 2010 год.

### Фітнэс-ровар

«Навошта вынаходзіць ровар?» — з такім пытаннем, відаць, у дзяцінстве часцяком звярталіся да Аляксандра Сінілы. Насуперак меркаванням скептыкаў ён стварыў свой ровар, які называе «акадэмічным».

Аўтар шчыра прызнаецца, што яму вядомыя аналагі яго вынаходніцтва. Але існуе прынцыповае адрозненне: рухомае сядло, што совaецца ўздоўж рамы. Гэта дазваляе напружваць не толькі мышцы ног, але рукі, спіну і нават брушны прэс. Вынаходнік падрабязна апісвае чатыры фазы, у якіх напераменку выкарыстоўваецца кожная частка цела. Застаецца толькі адно пытанне: ці не ператворыцца «рух сядла наперад з паскарэннем» падчас рэзкага тармажэння ў бескантрольны палёт паперадзе двухколавага сябра?

### Як схаваць хвоі ад лася

Інстытут лесу НАН выступіў з рацыяналізатарскай праграмай «Антылось». Рэч у тым, што ласі надта любяць аб'ядаць маладыя хвойкі. Таму леснікі высаджваюць каля дрэваў натуральную перашкоду — калючыя кусты, аднак тыя не маюць вялікай гаспадарчай каштоўнасці.

Калектыў навукоўцаў прапануе вакол хвояў саджаць яліны. Але не абы-якія! Па-першае, яны мусяць быць на тры гады старэйшыя за хвоі. Другая парада тычыцца правілаў пасадкі: яліны трэба высаджваць двума шэрагамі па ўсім перыметры сасонніку з крокам 0,7 м.

### Кунавінскія трэніроўкі

Патэнт можна атрымаць, нават калі вынайдзеш новае фізічнае практыкаванне. Як Віктар Кунавін, які прафесійна займаецца іх распрацоўкай. Праўда, каб выканаць такое, трэба папацець. Вось, напрыклад, практыкаванне, што паляпшае рухомасць тазасцегнавых суставаў. Прыміце зыходнае палажэнне: сядзьце на падлогу паміж падагнутымі ў каленях нагамі, прычым цела, шыя і галава павінны скласці вертыкальную лінію, а рукі ляжаць на сцёгнах. Пасля трэба зрабіць удых, сагнуцца наперад і, абхапіўшы галёнкі, апусціць корпус цела да дотыку грудзьмі падлогі. Варта пачакаць да з'яўлення болевых адчуванняў — і вярнуцца ў зыходны стан. І ўсвядоміць: абы за што патэнт не даюць.

### Беларуская народная гульня

Аляксандр Драніцкі вырашыў кінуць бой замежнай «Манаполіі». Аўтар заўважае, што яна складаная для малых дзяцей, і прапануе сваю настольную гульню. Якая, відаць, задумлялася як надзвычай простая... Цытата з інструкцыі: «Напрыклад, «4а. 9т» азначае, што картка вынята са стосіка раскладу і пакладзеная ў сектары 2 у стосік картак тыпу Т, прычым індэкс «а» азначае, што адбылося першае пасля перакладкі за нумарам выняцце чарговай гульнявой карткі». Гульня пакуль што не паступіла ў прамысловую вытворчасць, таму аматары яшчэ не могуць выкладаць карткі ў правільным парадку.

**Яўген Васількоў**



**А вынаходнікі з Брэсцкага тэхнічнага ўніверсітэта распрацавалі робата-ахоўніка, які можа «рабіць маніторынг памяшканняў і спыняць несанкцыянаванае пранікненне».**

**Іншыя карысныя вынаходніцтвы:**

— прылада для вызначэння біялагічна актыўных кропак на целе чалавека;

— «падмятальна-прыбіральная» прылада;

— гліцэрынавая сумесь для выдалення снежна-ледзяных утварэнняў;

— спосаб замяшчэння адзінкавага адсутнага зуба валаконна-кампазітным няздымным пратэзам;

— прылада для расчэсвання і абразання парасткаў журавінаў.

**Што трэба для атрымання патэнта:**

1) заява пра выдачу патэнта;

2) апісанне вынаходніцтва, якое раскрывае яго з паўнатой, дастатковай для ажыццяўлення;

3) формула вынаходніцтва, якая выражае яго сутнасць і цалкам заснаваная на апісанні;

4) чарцяжы ці іншыя матэрыялы, калі яны неабходныя для разумення сутнасці вынаходніцтва;

5) рэферат.

НАВУКА

## Даследчыкі шукаюць прадукт, які падманвае пачуццё голаду

Група даследчыкаў кампаніі Nestle спадзяецца стварыць новы прадукт на аснове «страўнікавага інстынкту».

Каб паведаміць нам, калі мы галодныя, у нашым стрававальным тракце адбываюцца складаныя працэсы. Нервовыя клеткі страўніка і мозга працуюць сумесна і своеасаблівым чынам «стасуюцца» паміж сабой. Нервовыя клеткі ў кішэчніку знаходзяцца ў тканках, высцілаючы стрававод, страўнік, тонкі кішэчнік і тоўстую кішку.

Арганізм знаходзіцца ў стане пастаяннага голаду. Але некалькі фактараў працуюць на абмежаванне інстынкту голаду: гэта наяўнасць ежы ў страўнікава-кішэчным тракце або пажыўных рэчываў у крыві. Калі гэтыя фактары сытасці знікаюць, арганізм зноў патрабуе ежы.

Nestle і іншыя буйныя харчовыя кампаніі працуюць на тое, каб расшыфраваць мову складаных сігналаў у чалавечым кішэчніку, які пасылае ў галаўны мозг сігнал пра сытасць, і выкарыстоўваць гэтыя веды для распрацоўкі прадуктаў, якія ствараюць даўжэйшае адчуванне сытасці.

Некаторыя навукоўцы мяркуюць, што гэта можа быць алей.

**online.wsj.com**

ІХ НОРАВЫ

## Берлусконі аблаяў тэлевядучага ў жывым эфіры

Такога, як італьянскі прэм'ер, не рабіў дагэтуль ніводзін лідар краіны. Ён патэлефанаваў у тэлеэфір і пасварыўся з вядучым. Берлусконі абразілі нападкі ў ток-шоу L'Infedele на прыватным канале La7 з прычыны чаргавога сэкс-скандалу. Вялося пра яго сяброўку — 25-гадовую Ніколь Мінэці, шоугёрл і стаматолага, якая лячыла яго ў 2009 годзе, калі пасля мітынгу ў Мілане яму кінулі ў твар важкую статуэтку і выбілі некалькі зубоў. Цяпер Мінэці (як і сам прэм'ер) пад следствам. Пракуратура лічыць, што яна дапамагала арганізоўваць вячэрнія оргіі з дзяўчатамі для Берлусконі.

Прэм'ер пазваніў вядучаму Гаду Лернеру і пачаў абражаць яго і яго гасцей. Лернер рэагаваў спакойна. Толькі калі Берлусконі назваў прысутных у студыі жанчын «так званымі дамамі», вядучы ў адказ назваў прэм'ера блазнам і грубіянам.

Лепшую рэкламу для тэлеканала цяжка было б прыдумаць.

**Сяргей Мікулевіч**

ТЭХНАЛОГІІ

## Kindle-кнігі на Amazon ужо прадаюцца лепш за папяровыя

У апошняй квартальнай справаздачы пра прыбыткі сайта Amazon кампанія абвясціла, што па продажах электронныя кнігі абагналі і кнігі ў мяккай вокладцы.

Гэта можна лічыць важным этапам у выдавецкай індустрыі.

У 2010 годзе было прададзена 115 Kindle-кніг на кожныя 100 кніг у мяккай вокладцы і ў тры разы больш Kindle-кніг, чым кніг у цвёрдай вокладцы. Гэтыя лічбы не ўлічваюць бясплатныя Kindle-кнігі, што робіць іх яшчэ больш уражлівымі. Рост папулярнасці электронных кніг, а таксама добрыя продажы Kindle 3 дапамаглі Amazon дасягнуць паказчыка 10 мільярдаў даляраў за квартал упершыню ў гісторыі кампаніі.

**КаМ; паводле habrahabr.ru**



Сапраўдная беларуская кухня

### Калдуны графа Тышкевіча

1 кг ялавічыны, 0,5—0,75 кг ялавічнага лою, трошкі маярану, 6—8 цыбулін, 10—15 сухіх грыбоў, 2—3 лыжкі булёну, 0,75 кг пшанічнай мукі, 3—4 яйкі, 1 чайная лыжачка масла для цеста, масла для палівання пры падачы, соль, чорны перац.

Грыбы замачыць, памыць, адварыць, парэзаць, падсмажыць.

Нарэзаць вельмі дробна, але не секчы, найлепшую ялавічыну. Асобна ачысціць ад плевак ялавічны лой з нырак, дробна пасекчы, змяшаць з мясам, пасаліць, паперчыць, усыпаць трохі сухога, сцёртага ў парашок маярану, дадаць некалькі спечаных і пакрышаных цыбулін, уліць пару лыжак булёну і старанна перамяшаць усё.

На гэтую колькасць фаршу зрабіць цеста з 0,75 кг мукі, 2—4 яек і вады (па патрэбе, цеста павінна быць не вельмі тугім), дадаўшы ў яго і лыжачку масла. Цеста добра перамяшаць, тонка раскачаць і выціснуць шкляначкай маленькія кружкі.

Лыжкай класці на кружкі фарш і рабіць калдуны, заціскаючы або загінаючы краі. Калі ўсё будзе гатовае, адварыць калдуны ў кіпячай падсоленай вадзе. Калі ўсплывуць наверх, адцадзіць і падаць на стол, паліўшы растопленым маслам.

Замест сырой ялавічыны можна ўзяць вэнджаны свіны кумпяк.

**НБ**

### Прыватныя абвесткі

**ВІТАННІ**

**Віншуем Настассю і Рамана, а таксама Тоню Маладзяшыных** з нараджэнем дачкі і сястрыцы Жэні. Сябры і былыя калегі

**Сардэчна віншуем з 20-годдзем сумеснага жыцця Сцяпана і Марыю Лагвінцоў.** Жадаем усяго самага найлепшага. Родныя

**КНІГІ**

**Прадам** т. 1—2, 9—10 Беларускай Энцыклапедыі ў 18 т. Т.: 298-16-62.

**Кнігу У.Арлова** «Імёны Свабоды» прадам. Т.: (029) 332-69-56. Святлана.

**ПАСЛУГІ**

**Дапамагу пры вывучэнні** нямецкай мовы. Т.: (029) 670-74-94.

**Дапамагу школьніку** справіцца з матэматыкай. Т.: (029) 910-45-01.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

## Кемікі



1) Як пры дапамозе чатырох «2» атрымаць 111?

2) Выкарыстоўваючы лічбы 0, 4, 7, напішы найбольшы і найменшы трохзначны лік.

**Сабрала Валянціна Карнялюк.**

**Адказы глядзі на старонцы 16.**




**Гэта не Аляска. Паблізу хутара Арлоўшчына ў Валожынскім раёне ўпершыню ў Беларусі прайшлі зімовыя гонкі на сабачых запрэжках «Завіруха-2011».**



**Супрацоўнікі кітайскага заапарка паспрабавалі абудзіць паляўнічы інстынкт у пяцімесячнага тыгранsocks**




**Міністр унутраных справаў Анатоль Куляшоў: «Ну хіба маглі міліцыянеры ўдарыць кандыдата, каб гэтага ніхто не заўважыў?» Старонка 3.**




**Чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску-такі будзе. Старшыня Федэрацыі хакея Беларусі Яўген Ворсін і дырэктар кампаніі «Інфронт» (камерцыйны партнёр Міжнароднай федэрацыі хакея) Бруна Марці падпісалі пра гэта дамову.**

# КДБ палічыў верш Купалы заклікам да «беспарадкаў»

Магілёўца Змітра Салаўёва 31 студзеня дапыталі ў КДБ. Яго выклікалі ў якасці сведкі па справе аб падзеях 19 снежня ў Мінску. Допыт праводзіў супрацоўнік УКДБ па Магілёўскай вобласці Андрэй Махуноў, паведамляе БелаПАН.

«Следчы задаваў пытанні, ці бачыў я тых, хто біў шкло, ці ведаю я іх. Я адказваў, што не, не бачыў і не ведаю. Да біцця шыбаў ніхто не заклікаў», — сказаў Салаўёў.

Аднак хітом допыту стала пытанне пра верш Янкі Купалы «На сход», які быў выяўлены ў камп'ютары, канфіскаваным у кватэры Салаўёва падчасператрусу 15 студзеня. Супрацоўнік КДБ цікавіўся, «хто падрыхтаваў гэта дакумент і каму ён належыць».

Па словах Салаўёва, допыт працягваўся каля дзвюх гадзін. Большая частка часу пайшла на складанне пратакола допыту, паколькі і пытанні, якіх было парадку пятнаццаці, і адказы апазіцыйны актывіст запісваў сам. Допыт праходзіў на беларускай мове.

Верш «На сход», у якім следчы пабачыў паралелі з нашым часам, Янка Купала напісаў у 1918 годзе. Тады востра стаяла пытанне беларускай незалежнасці і дэмакратыі. Таму спецслужбісцкае чуццё не схібіла: карані сённяшніх падзей — у тым часе. З Купалы яны пачыналіся.

**Сяргей Мікулевіч**

ЯНКА КУПАЛА

НА СХОД!

На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход
Ідзі, аграблены, закованы народ!

Як роўны йдзі жыхар між роўных жыхароў,
Аддай на суд свае ўсе крыўды, слёзы, кроў.

Аб вечным катаванні, здзеку далажы
І пакажы на курганы і на крыжы.

І аб раскопаных магілах не забудзь,
Дзе груганы тваіх там продкаў косці рвуць.

Як гналі пот з цябе паны і каралі,
Як гналі проч цары з радзімае зямлі.

Як Бацькаўшчыну тваю рэжуць на кускі,
Як гібнеш з дзецьмі ты ад катняе рукі —

Аддаці ўсё на суд, на ўсенародны сход
Ідзі, аграблены, закованы народ!

1918

## Анекдоты

* * *

Які ты прэзідэнт, калі табе пару акон разбілі, а ты лямантуеш на ўвесь свет пра пераварот.

* * *

Вось кажуць: нямецкая якасць, нямецкая якасць, не параўнаць з кітайскай... Лухта! Кітайская сцяна ўжо дзве тысячы гадоў стаіць, а Берлінская і паўстагоддзя не прастаяла.

* * *

— Як ужо надакучылі гэтыя фільмы са спецэфектамі ў галоўнай ролі!

* * *

— Калі мы будзем жыць добра?

— Калі ў аб'явах аб продажы патрыманых машын з Еўропы не будзе прыпісак «Без прабегу па РБ!».

* * *

— А што, той хлопец, які хоча ажаніцца з тваёй сястрой, багаты?

— Ды не, не вельмі. Кожны раз, калі мама распачынае гаворку пра вяселле, тата кажа: «Бедны хлопец!»

* * *

З інструкцыі па правядзенні праверак падатковай інспекцыяй: «У выпадку, калі падатковай праверкай у прадпрымальніка не выяўлена парушэнняў, складаецца адмінпратакол і выпісваецца штраф за ўхіленне ад парушэнняў».

* * *

— Як давесці дзяўчыну да вар'яцтва?

— Даць ёй кучу грошай і зачыніць усе крамы!

## «НН» сто гадоў з вамі

Былога начальніка сувалкаўскага сыскнога аддзела судзілі за тое, што ён здзекаваўся з арыштаваных і мучыў іх пры помачы нейкай асаблівай машынкі.

**«НН». № 6. 1911.**

Прэзідыум Рады Федэрацыі прафсаюзаў падтрымаў прапанову аб удзеле Уладзіміра Ганчарыка ў прэзідэнцкіх выбарах як «шараговага грамадзяніна шляхам збору 100 тысячаў подпісаў». Выбарчая платформа будзе разгледжаная пасля афіцыйнага абвяшчэння даты выбараў.

**«НН». № 5. 2001.**

**Адказы да старонкі 15:**

1) 222:2=111; 2) 740, 407.

Наша Ніва
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7005.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 01.02.2011.
Замова № 501.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 11005